ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

29 ВЕРАСНЯ 1995 г. № 39 (3811) Кошт 2 000 руб.



# 20 ГОД... МНОГА ЦІ МАЛА?

Што такое Універсітэт культуры сёння?

Гэта звыш 40 спецыяльнасцей і спецыялізацый, якія ахопліваюць усе сферы культурнай дзейнасці чалавека.

Гэта звыш 3 тысяч студэнтаў — будучых культуролагаў, бібліятэкараў, кіраўнікоў мастацкіх калектываў, менеджэраў, выкладчыкаў музыкі і танца, мастакоў і салістаў.

Гэта звыш 20 дактароў навук і прафесараў, звыш 100 дацэнтаў і кандыдатаў навук сярод выкладчыкаў. У іх ліку таксама народныя артысты, заслужаныя дзеячы культуры — лепшыя прадстаўнікі беларускага мастацтва.

Гэта два каледжы — Мінскі лінгвістычны і Магілёўскі бібліятэчны. Адкрыта філія універсітэта і на базе Мазырскага музычнага вучылішча. Праводзяцца спецнаборы на сацыяльную рэабілітацыю сродкамі мастацтва для насельнікаў чарнобыльскай зоны, а яшчэ па элітарнай (шляхетнай) культуры для Нясвіжскага і Мірскага комплексаў. Вядзецца падрыхтоўка дзяцей усіх узростаў у гуртках, аб'яднаннях, калектывах спецыяльных мастацкіх школ.

Угледзьцеся ў гэтыя светлыя ўсмешлівыя твары... Сярод студэнтак аддзялення харэаграфіі вы, мабыць, не адразу пазнаеце рэктара ўстановы — прафесара, члена-карэспандэнта Акадэміі адукацыі Беларусі Ядвігу Дамінікаўну Грыгаровіч. Гэта ў многім дзякуючы яе намаганням універсітэт стаў беларускім па духу, а не толькі па форме. Нарадзіўшыся ў маляўнічай вёсачцы над Беразіной, вырасшы, па яе словах, у бібліятэцы (бо там працавала маці), яна вучылася музыцы, а кандыдацкую дысертацыю абараніла па творчасці Янкі Купалы.

6 кастрычніка Універсітэт культуры разам з інаўгурацыяй 21-га акадэмічнага года і рытуалам пасвячэння ў першакурснікі адзначае "круглую" дату — 20 год з дня заснавання. На юбілейныя ўрачыстасці прыедуць 9 рэктараў з універсітэтаў Еўропы і Амерыкі. А завершыцца свята вялікім гала-канцэртам у Тэатры музычнай камедыі.

Віншуем, цябе Універсітэт!

## ПАДРУЧНІКІ ДЛЯ ВЫХАВАННЯ... КАГО?

***Ніл ПЛЕВІЧ: "Рабіць выгляд, што нічога нядобрага і трывожнага не адбываецца, мы не маем права. Маўчанне ў такім становішчы толькі паспрыяе таму, каб здабытае і завяванае мы страцілі, каб усё пакацілася назад..."***

2

## КУЛЬТУРА: ЭВАЛЮЦЫЯ І ТРАДЫЦЫЯ

***Васіль АЎРАМЕНКА: "...Калі гляну на вяршыню нашай дзяржаўнай піраміды, то бачу, што можна быць і пры гальштуку і пры высокай пасадзе і не абцяжарваць сябе культурнасцю".***

5

## СЯРЭДНЯЯ ЛІТВА

***Мікола ІВАНОЎ: "Гісторыя "Сярэдняй Літвы" і падзеі вакол яе з'яўляюцца выразным сведчаннем таго, што на шляху да сваёй сапраўднай незалежнасці беларускі народ мог разлічваць толькі на свае ўласныя сілы. Ніводзін з суседзяў Беларусі не быў шчыра зацікаўлены ў рэальным самавызначэнні беларускага народа".***

14–15

***Як мы добра ўсе ведаем, асабліва пасля публікацый ў "Свабодзе", наш прэзідэнт быў адзіным, хто галасаваў супраць Белавежскіх пагадненняў. І сёння ён, практычна ў адзіноце б'ецца за аб'яднанне трох усходнеславянскіх дзяржаў-братоў (ці сясцёр?) у калі не ваенны, дык хоць бы эканамічны блок. Пад грукат бомб у Босніі ён пабываў па чарзе ў гасцях у лідэраў нашых суседзяў. Мяркуючы па друку і тэлебачанні, Расія сустракае прапановы нашага прэзідэнта хоць і дыпламатычна, але насцярожана і крыху скептычна, Украіна — адкрыта з іх смяецца. Большасць жа палітыкаў на Беларусі ўжо і смяяцца стаміліся...***

## ЗАГАД ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі даручыў групе вучоных-сацыёлагаў правесці экспертны аналіз грамадскай думкі ў сувязі з указамі N 349 і N 350 (аб зменах у выплаце пенсій і льготнай палітыцы дзяржавы). Вынікам гэтага апытання, прагназуе Белінфарм, могуць стаць канкрэтныя і рашучыя дзеянні прэзідэнта ў абарону інтарэсаў людзей. Сітуацыя дастойная пяра Оруэла альбо Булгакава: каб абараніць кагосьці, трэба спачатку яго пакрыўдзіць... Замілаванне выклікае пасля ўсяго гэтага шэраг публікацый у "Советской Белоруссии" пад рубрыкай "О главном" і загалоўкамі тыпу: "Президент советуется с народом. Народ советует Президенту...", "Кто и зачем "подставляет" главу государства?". Няўжо і сапраўды наш народ можна "вадзіць за нос" бясконца?

## КАНФЛІКТ ТЫДНЯ

На сваім апошнім пасяджэнні Вярхоўны Савет неабходнай большасцю галасоў прыняў папраўкі да Закона аб выбарах, згодна з якімі выбары будуць лічыцца адбыўшыміся, калі на ўчасткі для галасавання з'явіцца больш за 25 працэнтаў ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Аднак, каб гэтая пастанова ўступіла ў сілу, яе павінен падпісаць прэзідэнт. Пасля завяршэння візіту ў Кіеў прэзідэнт у інтэрв'ю "Радыёфакту" заявіў, што новую рэдакцыю Закона аб выбарах не падпіша. Гэта пацвердзіў у каментарыі для "Знамя юности" і У.Замяталін. Але ў інтэрв'ю "Інтэрфаксу" старшыня ВС М.Грыб упэўнена пацвердзіў: "Лістападаўскія выбары ў парламент пройдуць па новых правілах..." Сесія пачынае працу 3 кастрычніка. Тады і чакаецца працяг гэтага супрацьстаяння.

## АБВЯРЖЭННЕ ТЫДНЯ

Міністр працы Беларусі Аляксандр Сасноў абвергнуў чуткі, што быццам бы з 1 кастрычніка чакаецца павышэнне памераў мінімальнага заробку. З гэтай нагоды, сцвярджае ён, не было ніякіх урадавых рашэнняў, больш таго, гэтае пытанне ўрадам нават не разглядалася. Наколькі памятаецца, друкуючы "чуткі", прэса спасылалася на самыя аўтарытэтныя крыніцы ва ўрадзе. Ці не значыць гэта, што распаўсюджанне чутак камусьці трэба было, што замест "зайцоў" нам пачалі падкідваць "качак".

## ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЯ ТЫДНЯ

Прэзідэнт і ўрад працягваюць наступ на льготнікаў. З 1 кастрычніка пачнецца перарэгістрацыя ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў катастрофы ў Чарнобылі. Акцыя, безумоўна, патрэбная, бо занадта шмат развялося ў нас "ліквідатараў", што пабылі блізка ля "зоны", а льготамі карыстаюцца. Ды бяда ў тым, што ў нас звычайна хочуць зрабіць як лепш, а атрымліваецца — як заўсёды.

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

"Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў праграму прыватызацыі, якая павінна стаць асновай дынамічнага развіцця эканамічных рэформаў у Беларусі", — паведаміў Белінфарм. І далей: "Прыватызацыя будзе мець плаўны і паэтапны характар, у якой гарманічна ўлічаны інтарэсы замежнага і беларускага прадпрымальніцтва, сацыяльныя гарантыі людзей працы". Заўважым, зноў прапануе сам прэзідэнт, а ці не *акажацца, у рэшце рэшт, што гэта нехта яго ў чарговы раз "падставіў"?* Дарэчы, прыватызацыя — першы этап трыяды мераў (яшчэ будуць праграмы па інвестыцыйнай палітыцы і стварэнні свабодных эканамічных зон), дзеля аздараўлення эканамічнай сітуацыі ў краіне.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Долар паспяхова "стаіць", а інфляцыя, між тым, па словах С.Багданкевіча, за 8 месяцаў г.г. склала 288 працэнтаў. З праявамі яе мы сустракаемся ледзь не кожны дзень. А ў бліжэйшы час нас чакаюць новыя "радасці". Мінгарвыканкам (а значыць, потым па чарзе і іншыя гаррайвыканкамы краіны) збіраецца павялічыць кошт праезду на гарадскім транспарце да 1000 рублёў. З Украіны прыйшла навіна, што падаражэе і цукар да 1 долара за кілаграм, а значыць, з усімі накруткамі, да 17—18 тысяч "зайчыкаў". Прыгадаем яшчэ падаражэнне з 1 кастрычніка камунальных паслуг, "замарожаныя" з вясны заробкі — галава кругам пойдзе: як жыць?

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Амаль на 140 мільярдаў рублёў выраблі тавараў прадпрыемствы Беларусі па заказе ваенна-прамысловага комплексу Расіі і трэць гэтай прадукцыі ўжо адправілі спажыўцам, але заказчыкі дагэтуль не расплаціліся з партнёрамі. Факты гэтыя прывёў наш прэзідэнт падчас сустрэчы з Б.Ельцыным, як аргументы на карысць таго, што Беларусь выконвае ўсе ўзятыя на сябе абавязацельствы па рэалізацыі першага этапу мытнага саюза. А вось "расіяне — падкачалі". Не ўпершыню, трэба сказаць. Кожны новы віток "аб'яднання" якраз і заканчваецца тым, што Беларусь выконвае ўсе абавязацельствы, а Расія, на ўзроўні прадпрыемстваў, бессаромна карыстаецца гэтым.

## ЧУТКА ТЫДНЯ

Як паведаміла газета "Имя", у Галоўным упраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта рыхтуецца праект распараджэння прэзідэнта аб выдзяленні сродкаў для выдання часопіса "Праваслаўе". "Па задуме Уладзіміра Замяталіна, прызначэнне новага друкаванага органа — мацаваць праваслаўнае адзінства трох славянскіх народаў (велікарускага, маларускага і беларускага)", — сцвярджае газета. Сродкаў новае выданне запатрабуе нямала. А таму ці не лепш было б пайсці ўжо апрабаваным шляхам: проста памяняць аднаго з рэдактараў існуючых часопісаў і праводзіць у ім патрэбную палітыку. Прэздэнт ёсць — газета "Знамя юности". Гэта было б танна, надзейна і, галоўнае, аператыўна.

## ДАЛЬТАНІЗМ ТЫДНЯ

Паведамляючы пра поспех мінскага "Дынама" ў чарговым матчы Кубка УЕФА, "Знамя юности" не стрымалася і адзначыла, што пасля матча "пассажиры из окон размахивали красно-зелеными флагами". Хлусня хай і дробненькая, але паказальная. Той, хто быў на стадыёне ці вяртаўся ў той вечар дамоў пасля матча (альбо глядзеў па тэлевізары, хоць, кажуць, і была забарона паказваць трыбуны), бачыў, што і стадыён, і горад былі расквечаны бел-чырвона-белымі сцягамі. І іх з матча на матч не меншае, як бы ні адбірала міліцыя. Чырвона-зялёныя былі, але ў такой нязначнай колькасці, што і знайсці іх, нават спецыяльна прыглядаючыся, цяжка было. А вось кар. "ЗЮ" убачыў толькі іх. І напісаў.



Ніл ГІЛЕВІЧ

# ПАДРУЧНІКІ ДЛЯ ВЫХАВАННЯ... КАГО?

## МАНКУРТАЎ ДЫ ІВАНАЎ БЕЗ РОДУ-ПЛЕМЕНІ?

### ВЫСТУПЛЕННЕ НА НАРАДЗЕ НАВУКОЎЦАЎ І ПЕДАГОГАЎ, АРГАНІЗАВАНАЙ КАМІСІЯЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ І КУЛЬТУРЫ

Шаноўныя ўдзельнікі нарады! Як вы ведаеце, за два тыдні да пачатку новага навучальнага года афіцыйны друк Беларусі паведаміў, што спецыяльным распараджэннем прэзідэнта Лукашэнкі адмяняюцца ўсе падручнікі грамадазнаўчага профілю для школ і ВНУ выдання 1992—1995 гадоў. Крыніца гэтага паведамлення — аўтарытэтная дзяржаўная ўстанова, а менавіта — Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Так што гэта не было нейкай чуткай ці жартам, а зусім дакладнай і зусім сур'ёзнай заявай. Так гэта і было ўспрынята шакіраванай грамадскасцю, у першую чаргу — педагагічнай, выкладчыкамі ВНУ і школьным настаўніцтвам. Было ад чаго прыйсці ў шокавы стан!

Напярэдадні 1 верасня А.Лукашэнка сабраў прадстаўнікоў Міністэрства адукацыі і навукі, Акадэміі навук, некаторых ВНУ і школ, якім і было заяўлена, што ніякага распараджэння аб адмене падручнікаў 1992—1995 гг. не было, але тым не менш новыя падручнікі трэба ствараць і як мага хутчэй. Грамадскасць наша за апошні год досыць-такі прывыкла да такіх нечаканых паваротаў-вывертаў у правядзенні пэўнай прэзідэнцкай палітыкі: сёння — адно, а заўтра — зусім другое. Ну, што ж, праглынём *і яшчэ раз гэты знак "павагі"* да грамадзян дзяржавы, паверым, што ніякага афіцыйнага дакумента не было.

Наша камісія за дзень да нарады ў прэзідэнта абмеркавала сітуацыю, выказала свае рэзка адмоўныя адносіны да замаху дзяржаўных улад на падручнікі, рашэнне сваё разаслала ў органы друку, якія і адным радком не паведамілі аб гэтым, накіравалі і ў адміністрацыю прэзідэнта, адкуль, на жаль, ніякага адказу не паступіла. Маўляў, бачылі на тэлеэкране нараду ў прэзідэнта, усё чулі, ведаеце — і што вам яшчэ трэба? Так, вядома, і бачылі, і чулі. І зразумелі, што прэтэнзіі да падручнікаў 1992—1995 гг. вельмі вялікія, што яны не задавальняюць сённяшняе кіраўніцтва дзяржавы і іх трэба мяняць, для чаго будзе створана спецыяльная камісія, будуць аб'яўлены творчыя конкурсы і г.д. і да т.п. Адным словам, праблема ёсць, праблема абазначана, і праблема такая, якая закранае *інтарэсы ўсёй грамадскасці, бо* датычыць вялікай дзяржаўнай палітыкі, лёсу рэспублікі, будучыні народа і нацыі.

І так, паразважаем над сітуацыяй. Нехта недзе рашыў, што і праблему падручнікаў, а г.зн. праблему навуковую, педагагічную і культуралагічную можна развязаць гэтак жа проста, як праблему дзяржаўнай сімволікі: паставіць на галасаванне — і толькі. Прагаласавалі — і ўсё гатова: нацыянальна-дзяржаўныя сімвалы адменены і больш таго — нізрынуты і растаптаны. З падручнікамі так не абыдзешся, бо школьнікам і студэнтам трэба па нечым вучыцца. Калі адабраць у іх гэтыя — дык трэба ім даць іншыя. Не па газетах жа вучыцца! Аднойчы, праўда, за маёй памяццю так ужо было — у час нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі. Загадалі з 1 кастрычніка 1941 г. дзецям ісці ў школу, а ўсе падручнікі, апрача задачнікаў, адмянілі як ідэйна непрыгодныя. І дзеці цэлы год вучыліся чытаць і разбіраць тэксты па газетах і адзіным для ўсіх часопісе. Зразумеўшы, што нашы школы могуць апынуцца ў такім жа становішчы, як у час вайны пад немцамі, ініцыятары скасавання новых падручнікаў далі задні ход. Маўляў, ніякага распараджэння аб адмене падручнікаў 1992—1995 гг. не было, а ёсць клопат аб паляпшэнні, аб удасканаленні некаторых з іх і аб напісанні новых, якія б адпавядалі... І вось тут, пасля доўгага шматкроп'я, вялікае пытанне: якія адпавядалі б... чаму? Чаму яны павінны адпавядаць? А значыць — чаму, якім крытэрыям і патрабаванням яны не адпавядаюць? Што ў падручніках названых гадоў ёсць заганнае і непрымальнае? А напэўна ж ёсць, і вельмі істотнае, бо інакш — навошта мяняць іх на іншыя?

Урадавыя структуры маюць намер арганізаваць працу над стварэннем новых, іншых падручнікаў, якія б адпавядалі... Значыць, праца многіх творчых аўтарскіх калектываў і асобных навукоўцаў і педагогаў закрэсліваецца, абвяшчаецца марнай. Натуральна, узнікае пытанне: хто ж гэтыя аўтары? *Выпадковыя, недасведчаныя* ў грамадскіх навуках людзі? Выпадковыя, непрафесіянальныя ў сферы педагогікі, адукацыі і выхавання людзі? Людзі, зусім невядомыя, без навуковых і педагагічных заслуг, без імя і аўтарытэту? Дазвольце адразу ж выказаць рашучую нязгоду. Аўтары падручнікаў, пра якія гаворка, — і вядомыя, і прафесіянальна падрыхтаваныя, і больш таго — таленавітыя *людзі. І ніхто не мае* маральнага права закасоўваць іх добрасумленную працу, падвяргаць сумненню іх навуковы і педагагічны аўтарытэт.

На фоне тых падручнікаў па грамадскіх дысцыплінах, што існавалі да пачатку 90-х гадоў, — не проста палітызаваных, а груба, вульгарна палітызаваных, — новыя падручнікі, на мой погляд, засведчылі плённы працэс духоўнага і маральнага абнаўлення ў грамадстве. Працэс, які, хачу падкрэсліць, пачаўся не сёння і не ўчора, а досыць даўно, ён выспяваў у нетрах *грамадства доўгі час, набіраў сілу* і выяўляў сябе як тэндэнцыя хоць і паступова, патроху, але — няўхільна і відавочна.

У новых падручніках па грамадазнаўчых дысцыплінах, у большай ці меншай меры, засведчаны: папершае, сучасны філасофска-светапоглядны і філасофска-маральны ўзровень саміх канцэптуальных пазіцый і падыходаў; па-другое, аб'ектыўна-навуковы грунт, на якім распрацоўваліся падручнікі, — грунт даследавання, аналізу, ацэнкі рэальных фактаў, асоб і падзей; па-трэцяе, больш высокі метадычны ўзровень падачы матэрыялу і, я сказаў бы, больш чалавечны, г.зн. не афіцыйна-казённы, не бяздушна-далдонскі характар самой мовы падручнікаў, мовы, разлічанай не на бяздумную, механічную зуброжку, а на ўспрыманне матэрыялу душой і сэрцам; па-чацвёртае, — гэта тое, што між радкамі: пачуццё адказнасці за справу, пачуццё патрыятычна-*грамадзянскага абавязку, жаданне* зрабіць хораша, па-людску, як для сябе, бо і сапраўды — для сябе, для сваіх дзяцей і ўнукаў, для сваёй Беларусі, для яе грамадзян.

Усё гэта дае падставы сказаць: мы можам і павінны ганарыцца нашымі навукоўцамі і педагогамі, якія ў такіх неспрыяльных умовах і за такі кароткі час паспелі зрабіць амаль немагчымае — новыя падручнікі...

Ці азначае сказанае, што новыя падручнікі і дапаможнікі — зусім беззаганныя, дасканалыя, ці нават ідэальныя? Ні ў якім разе! Пра *дасканалы ці ідэальны падручнік* наогул гаварыць не будзем. Але і проста добры падручнік лёгка не ствараецца, і, як правіла, — адразу не ствараецца. Напэўна, у падручніках, якія на дзяржаўных вышках прызнаны непрыгоднымі, ёсць памылкі, недагляды, упушчэнні, магчыма і непажаданыя перакосы, — асабліва ў падручніках па гісторыі, у ацэнках пэўных гістарычных падзей. Але ж гэта тое, што можна выправіць. Дзеля такіх прыватных момантаў уся праца не закасоўваецца. Рэч, аднак, у тым, што хочуць не папраўкі ўнесці ў падручнікі, а забракаваць іх наогул і вярнуцца да тых канцэпцый, што панавалі дзесяцігоддзі. Рэч у пастаўленай мэце: школьнікі і студэнты павінны мысліць ранейшымі катэгорыямі, па-ранейшаму не павінны ведаць праўдзівую гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, як і дагэтуль, павінны чытаць пра "заслугі" перад Беларуссю заклятых ворагаў беларушчыны, нашай свабоды і незалежнасці, — накшталт Кнорына, *Мяснікяна, Ландэра, — і нічога* не чытаць і не ведаць пра сапраўды выдатных патрыётаў Радзімы... Рэч у тым, каб, як і дагэтуль было, нашых дзяцей выхоўваць манкуртамі, Іванамі без роду і племені.

Дапрацоўваць, удасканальваць падручнікі, вядома ж, трэба, але — справа гэта не такая простая. У нашым выпадку — хто будзе іх дапрацоўваць? Аўтары — ці тыя, хто не меў дачынення да іх напісання? У якім накірунку будзе ісці дапрацоўка і ў якой меры? Калі будзе мяняцца канцэпцыя падручніка — то гэта ўжо, як вы разумееце, не дапрацоўка, а перапрацоўка! Хто ўвойдзе ў камісію, якая ацэніць, прааналізуе падручнікі 1992—1995 гг.? Шмат, як бачыце, пытанняў.

Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі і культуры ўзяла на сябе ініцыятыву склікаць гэту нараду для таго, каб абмеркаваць сітуацыю і зрабіць пэўныя высновы, з якімі пазнаёміць усю грамадскасць. Рабіць выгляд, што нічога нядобрага і трывожнага не адбываецца, мы не маем права. Маўчанне ў такім становішчы толькі паспрыяе таму, каб здабытае і заваяванае мы страцілі, каб усё пакацілася назад — туды, адкуль мы, удзячныя лёсу, рашылі нарэшце выкараскацца — з нацыянальна-культурнага анабіёзу, з дзяржаўна-палітычнага небыцця.

7.09.95 г.

# АСВЕЧАНЫ ІМЕМ КУПАЛЫ

У купалаўскіх Акопах, там, дзе напісаны многія неўміручыя творы вялікага песняра ("Курган", "Яна і я", "Паўлінка", "Тутэйшыя" і інш.), прайшоў арганізацыйны сход міжнароднага Літаратурнага фонду Янкі Купалы. Асноўныя задачы фонду — дапамога ў даследаванні й прапагандзе творчай спадчыны народнага паэта Беларусі, у мемарыялізацыі мясцін, звязаных з яго жыццём і дзейнасцю. У склад Рады фонду ўвайшлі вядомыя навукоўцы й літаратары як з Беларусі (спсп. Г.Бураўкін, Л.Дранько-Майсюк, С.Законнікаў, У.Гніламёдаў, А.Пяткевіч, Г.Праневіч), так і з Расіі (сп.А.Каўка), Летувы (сп-ня А.Лапінскене), Польшчы (сп. А.Баршчэўскі), Англіі (сп. Дж.Дынглі), ЗША (сп. В.Кіпель) і некаторых іншых краін.

Прэзідэнтам фонду абраны загадчык кафедры тэорыі літаратуры Бел-дзяржуніверсітэта прафесар Вячаслаў Рагойша, віцэ-прэзідэнтам — дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Жана Дапкюнас, сакратаром — супрацоўніца гэтага музея Антаніна Хатэнка.

**А.Ш.**

# ДЗЕ ВЫ, РАДЗІВІЛЫ ДЫ СКІРМУНТЫ?

## ЗВАРОТ ДА ДЗЯРЖАЎНЫХ, НЕДЗЯРЖАЎНЫХ І КАМЕРЦЫЙНЫХ СТРУКТУР РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Этнічную і гістарычную адметнасць любога народа вызначаюць яго мова і культура. Так склалася, што за апошнія стагоддзі якраз мова і культура беларускага народа пацярпелі ад уціску і занядбання. І сёння, у час чарговых вялікіх змен і пераўтварэнняў, нягледзячы на тое, што Беларусь набыла сваю дзяржаўнасць і самастойнасць, становішча нацыянальнай культуры — цяпер ужо з-за эканамічных цяжкасцей — без перабольшання, катастрафічнае. Самы нізкі ўзровень аплаты працы работнікаў мастацтва і культуры сведчыць не толькі пра адносіны да тых, хто прызваны захоўваць і прымнажаць (і захоўвае і прымнажае!) культурныя багацці народа, але і пра агульны духоўны стан грамадства, няздольнага зразумець свайго абавязку перад будучыняю Беларусі, перад нашчадкамі, якім не будзе ў каго спытаць за страчаныя каштоўнасці.

Гаварыць пра тое, што мову, культуру народа трэба ратаваць, і ратаваць неадкладна, — мала. Трэба дзейнічаць. Трэба кожнаму рабіць і зрабіць тое, што ён можа, на што ён здольны.

Створаны і пачаў сваю дзейнасць грамадскі рэспубліканскі Фонд падтрымкі беларускай культуры. Мы звяртаемся да ўсіх, хто неабыякавы да лёсу нацыі, да лёсу сваёй Бацькаўшчыны, стаць сябрамі гэтага фонду і зрабіць свой уклад на карысць мастацтва і культуры.

Фонд падтрымкі беларускай культуры прапісаны па адрасе: Мінск, Дамашэўскі зав., 9.

Тэлефоны: 51-32-42, 33-02-29. Факс: 51-22-55.

**Аляксандр БАРАНОЎСКІ (старшыня),**
**Таіса БОНДАР,**
**Сяргей ГАБРУСЕВІЧ,**
**Сяргей ЗАКОННІКАЎ,**
**Уладзімір ТОЎСЦІК,**
**Аляксандр ШАБАЛІН**

Святы

# ПОДЫХ ДАЎНІНЫ





Напрыканцы мінулага тыдня Наваградак адзначыў сваё 950-годдзе. Усе, хто нарадзіўся ў гэтым славутым горадзе, збіраліся ў час свята правесці свой з'езд. Аднак гэтая цікавая ідэя не ажыццявілася, але затое "па традыцыі" прайшлі чарговыя, чацвёртыя Наваградскія чытанні. На іх выступілі нашы вядомыя навукоўцы Уладзімір Конан, Леанід Лыч, Анатоль Цітоў і іншыя. Да свята горада было прымеркавана адкрыццё Дзён еўрапейскай спадчыны.

Ад колісь велічных і магутных замкавых збудаванняў Наваградка на сённяшні дзень засталіся рэшткі вежавых руін. Усё ж сам Наваградак не згубіў сваёй прыцягальнасці. І каб адчуць подых даўніны, варта зайсці ў Барысаглебскую царкву альбо касцёл, дзе вянчаліся славутыя князі, пастаяць каля помніка Адаму Міцкевічу, ля бюста Якуба Коласа. І гэта няпраўда, што хуткаплынны час знішчае ўсё. Памяць застаецца.

*На здымках Сяргея БРУШКО — ваколіцы Наваградка і моманты гарадскога свята.*



# ПАМЯЦІ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА



Як вядома, Алесь Адамовіч нарадзіўся ў вёсцы Канюхі цяперашняга Капыльскага раёна, але з 1928 года сям'я пражывала ў пасёлку Глуша, а гэта — Бабруйскі раён. Было тады будучаму знакамітаму пісьменніку, навукоўцу, праваабаронцу ўсяго з год, таму і прайшло маленства яго сярод прыгожай тамашняй прыроды, а пачатак юнацтва, як вядома, апаліла вайна, у 1942 годзе А.Адамовіч стаў сувязным, а затым байцом партызанскага атрада імя Кірава Мінскага злучэння. Пазней, куды б ні закідвалі яго дарогі, абавязкова наведваўся ў Глушу, каб пакланіцца бацькоўскаму парогу. І выказаў пажаданне быць пахаваным на мясцовых могілках.

У дні работы ІІ Міжнароднага кангрэса Беларускага ПЭН-цэнтра адбылося адкрыццё намагільнага помніка Алесю Міхайлавічу. Гэта — вялікі валун, на якім — крыж і толькі два словы — Алесь Адамовіч. Словы, якія шмат гавораць сэрцу кожнага, хто любіць творчасць гэтага пісьменніка, каму дарага яго грамадзянская пазіцыя, блізкія чалавечыя прынцыпы. Менавіта так падышоў да ўвекавечвання памяці А.Адамовіча скульптар В.Янушкевіч.

У час адкрыцця надмагілля з успамінамі пра Алеся Міхайлавіча выступілі тыя, хто яго добра ведаў — народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, Валянцін Аскоцкі (Масква), Міхась Тычына.

**Н.К.**

*Фота У.КАРМІЛКІНА*

# УЧЫНАК

## ЗАКОНЧЫЎСЯ СУДОВЫ ПРАЦЭС ПА ІСКУ З.ПАЗНЯКА ДА СТВАРАЛЬНІКАЎ ФІЛЬМА "НЯНАВІСЦЬ: ДЗЕЦІ ХЛУСНІ".

У годзе, здаецца, восемдзесят шостым ці восемдзесят сёмым з ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ у "ЛіМ" прыйшло распараджэнне паслаць на курсы "ўдасканалення" пры рэспубліканскай вышэйшай партыйнай школе аднаго з супрацоўнікаў рэдакцыі. Такія курсы наладжваліся тады ці не кожны год, і гэтым разам "пашэнціла" трапіць на іх мне. Помню, паклікаў мяне да сябе ў кабінет тагачасны галоўны рэдактар Анатоль Вярцінскі, паведаміў мне гэтую навіну і, зірнуўшы ў твар, з усмешкай спытаў: "Чаго ты зморшчыўся? Адпачнеш пару тыдняў..."

Набор на гэтыя курсы ў той год быў чыста журналісцкі і, адпаведна з гэтым, быў пабудаваны і лекцыйны курс: унутраная палітыка КПСС, міжнароднае становішча, ідэалагічная барацьба супраць прошукаў заходніх імперыялістаў і да т.п.

Абвешчанае Гарбачовым "новае палітычнае мысленне" рабіла толькі першыя "крокі", і хоць не выходзіла за межы чыста дэкларатыўных пастулатаў, у большасці лектараў гэтыя "навацыі" выклікалі непрыхаваную непрыязь. З тае пары і запала ў памяць прозвішча аднаго з іх — доктара філасофскіх навук, супрацоўніка акадэмічнага Інстытута філасофіі і права В.Боўша. Запомніўся ён сваімі артадаксальна-камуністычнымі поглядамі, нянавісцю да любой формы дысідэнцтва. Асабліва ўз'еўся ён на адной са сваіх лекцый на Алеся Адамовіча — за ягоны заклік да ядзернага раззбраення, у тым ліку і Савецкага Саюза. Гэта было расцэнена прафесарам як здрада радзіме, выкананне задання ЦРУ на падрыхтоўку ваеннага паражэння СССР у будучай вайне. Гаварылася пра ўсё з такой злосцю, такім зняважлівым у дачыненні да Адамовіча тонам, што частка аўдыторыі проста абурылася.

З таго часу прозвішча В.Боўша калі-нікалі траплялася мне ў прэсе, і ці не кожны раз у сувязі з нейкімі гісторыямі, звязанымі з уціскам іншадумцаў.

І вось — новая сустрэча з ім... у судзе. Так, у Першамайскім судзе г.Мінска, дзе слухалася справа аб іску лідэра БНФ Зянона Пазняка да стваральнікаў дакументальнай кінастужкі "Нянавісць: дзеці хлусні" Ю. Азаронка, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі рэспублікі і таварыства з абмежаванай адказнасцю "Шэнка" аб абароне гонару і годнасці. Запрошаны на працэс прафесар В.Боўш быў адвакатам Ю.Азаронка ў якасці эксперта. Да яго ролі ў судовым разбіральніцтве мы яшчэ вернемся, а пакуль што — пра сутнасць справы.

Пераказваць змест гэтага фільма, мабыць, няма патрэбы, ён двойчы (10 і 12 мая г.г.) паказваўся па тэлебачанні з такім разлікам, каб яго магла ўбачыць максімальная колькасць тэлегледачоў. Заўважу толькі, што стужка адназначна негатыўна была ўспрынята дэмакратычнай грамадскасцю Беларусі з-за сваёй непрыхаванай тэндэнцыйнасці, падтасоўкі фактаў, імкненнем абліць брудам, зняславіць вядомага грамадскага дзеяча краіны, дэпутата Вярхоўнага Савета З.Пазняка.

(Працяг на стар. 14-15)

Рэпліка

# САМАРЭКЛАМА "Ў МАРЫНАДЗЕ"

Газета "Свободные новости-плюс" прадставіла чытачам свайго новага "паліткансультанта" — даму прыемную знешне, але ўнутрана (мяркуючы па дыялогу) вельмі неадназначную.

Па-першае, суразмоўніца С.Арцюшэнкі Вольга Абрамава не пакутуе ад празмернай сціпласці. І медалістка яна залатая, і захаплялася ў юнацтве ідэямі ўсіх на свеце і вялікіх рэвалюцый, і за дэмакратыю змагалася ледзьве не з пялюшак... Навуковы камунізм яна, трэба разумець, выкладала лепш чым хто. А калі па ўласнай ініцыятыве перайшла на выкладанне паліталогіі, то мела вялікія непрыемнасці і ледзьве не стала ахвярай "ликвидации гуманитарного образования" пасля падзей жніўня 1991-га.

Па-другое, нам падаецца перабольшанай вядомасць Вольгі Абрамавай і яе вага ў вялікай палітыцы. Калі ўспрымаць усур'ёз словы Вольгі Міхайлаўны, то прывяла яе ў Рух дэмрэформ "принудительная белорусизация". Праўда, яна не кажа, якім чынам "пострадала" ад гэтай жахлівай "форсированной кампании". Здаецца, яе саму не прымушалі ні мову вучыць, ні "пять страниц из Нила Гилевича". Ды і гісторыю разам з сынам яна перавучваць не стала. Можа, таму, што новыя падручнікі па беларускай гісторыі к 1991 году яшчэ не паспелі выйсці.

Наконт рэальных фактаў грамадскай "прынудзілаўкі" палітолаг дужа асцярожная. Усё "некоторые", "многие" ды "целый ряд". Хоць бы ўстанову назвала ці імя якое! Мінімум канкрэтыкі! Няблага для пачынаючага палітычнага аглядальніка. Можна сказаць — сімптаматычна.

Адно яе прызнанне нас, нацыяналістаў, вельмі зацікавіла. Аказваецца, гэта Вольга Абрамава разам з Рухам дэмрэформ "предложила белорусскому обществу целый ряд идей. (...) Так, в заявлении от марта 1992 года наша организация ПЕРВОЙ В РЕСПУБЛИКЕ заявила о необходимости ГОСУДАРСТВЕННОГО ДВУЯЗЫЧИЯ" (так у тэксце. — Рэд.). Не без жаночай крыўды піша Абрамава, колькі нядобрых слоў і нават пагроз (?!) пачула ў свой адрас як сааўтар праекта новага закона "О языках". Калі нават нехта нешта і сказаў, то чаго яна хацела — каб мы ёй нізка кланяліся за такую "паслугу"?

Краіна павінна ведаць сваіх герояў. І як добра, што час ад часу яны самі вытыркаюцца, становячы сябе ў ганаровыя шэрагі паміж А.Вольскім, А. Сабчаком, С. Шаталіным і "другими политиками" суседняй дзяржавы.

Цікава і тое, як абаронца правоў рускай меншасці ў Беларусі будзе інтэрпрэтаваць беларускую палітыку. Аб'ектыўнага аналізу ад яе "СН-плюс", мабыць, не дачакаюцца. З чым іх і віншуем.

А вось рэцэпт грыбнога марынада і універсальнага цеста трэба абавязкова перапісаць. Жонка дзякуй скажа.

**ЛІМАВЕЦ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## БУДУЕЦЦА ЦАРКВА



**Драўляны царкоўны будынак, узведзены ў вёсцы Доры Валожынскага раёна яшчэ ў 1773 годзе, у 1943 годзе быў спалены нямецкімі акупантамі разам з сельскімі жыхарамі. У 1990 годзе, калі было прынята рашэнне аб будаўніцтве храма-помніка ў гонар загінуўшых, аднавілася і жыццё царкоўнай абшчыны. На месцы трагедыі ўзведзены мемарыяльны скульптурны комплекс, а цяпер адбылося асвячэнне Свята-Пакроўскай царквы, якая будуецца ў вёсцы.**

*На здымку: асвячэнне царквы, якая будуецца ў вёсцы Доры.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ*

## СУСТРЭЧЫ, ПРЭМ'ЕРЫ, ВЕЧАРЫНЫ

**Пачынаецца чарговы сезон у Доме літаратара. Аб тым, што ён будзе змястоўным, пераконвае і афіша кастрычніка.**

**12 кастрычніка пройдзе вечар памяці Рыгора Семашкевіча — "Любіце паэтаў, любіце..."**

**13 кастрычніка — прэм'ера кнігі Любові Шэлег "Рамонкавае поле".**

**17 кастрычніка — прэм'ера серыі тэлевізійных мастацкіх фільмаў рэжысёра В.Шавялевіча па сцэнарыях С.Тарасава "Пастка для зубра. Ягайла" і "Пастка для зубра. Вітаўт".**

**20 кастрычніка пройдзе паэтычная пятніца Вольгі Куртаніч — "На сходзе незвычайна-скрушных дзён..."**

**23 кастрычніка — музычна-літаратурная кампазіцыя паводле оперы Антоні Генрыка Радзівіла "Фаўст".**

**Згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадзін 30 мінут.**

**4 кастрычніка ў 18 гадзін у памяшканні Беларускага таварыства дружбы (вул.Захарава, 19) пачнецца вечарына "Ветрык, вей!", прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Яніса Райніса.**

**На 15 гадзін запланаваны пачатак наступных мерапрыемстваў:**

**5 кастрычніка — сумеснае пасяджэнне секцыі перакладу з Біблійнай камісіяй і Беларускім Праваслаўным Брацтвам Трох Віленскіх Мучанікаў;**

**19 кастрычніка — пасяджэнне секцыі паэзіі;**

**26 кастрычніка — пасяджэнне секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва;**

**30 кастрычніка на секцыі прозы будзе абмеркавана творчасць маладых аўтараў.**

## ЧАГО ТОЛЬКІ НЕ БЫВАЕ...

**Вы можаце ўявіць сабе, каб, скажам, у Малдове з'явілася "Молдавская газета"? Ці, напрыклад, у Грузіі пачалі выдаваць "Грузинскую газету"? А латышы б прыйшлі да высновы, што без "Латышской газеты" і жыццё не жыццё, а проста існаванне?**

**Абсурд, кажаце? Цалкам з вамі згодны. Але то дзесьці, а ў нас... У нас, калі ласка — "Белорусская газета". Усё, як кажуць, чын-чынам. Зарэгістравана ў Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь 8 жніўня 1995 года, рэгістрацыйны нумар 1164.**

**І пры рэгістрацыі, як бачна, ніхто не засумняваўся, што "Белорусская газета", карыстаючыся папулярным сёння словам, — нонсенс. Калі газета выдаецца па-руску, яна ўжо не "беларуская"...**

**Дарэчы, прыняўшы пад увагу афармленне новага выдання, прыгадаўшы прозвішчы заснавальнікаў і аўтараў, няцяжка здагадацца, што "Белорусская газета" "адпачкавалася" ад "Белорусской деловой газеты". Яблык — ад яблыні?**

**Н.К.**

Адам МАЛЬДЗІС

# БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ПРЭСА...

## А ЦІ ДАРАСЛІ МЫ ДА ЯЕ?!

Кожны дзень у наш Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны пошта прыносіць некалькі дзесяткаў перыядычных выданняў, якія выходзяць у Беларусі на беларускай, рускай і польскай мовах. Да гэтага дадаюцца газеты і часопісы, а таксама выразкі з іх матэрыялаў, прысвечаных Беларусі, якія прысылаюць, паводле статута, сябры Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў з самых розных краін — ад Японіі да Канады. І амаль кожны вечар я сядаю з чырвоным алоўкам у руках, каб размеціць гэтыя выданні для супрацоўніц нашага Банка інфармацыі па гуманітарных дысцыплінах, якія ўкладаюць папкі-дасье: вось гэта пойдзе на персаналіі, гэта — па гісторыка-культурнай тэматыцы, гэта — па кантактах з замежнымі краінамі, а гэта — па канкрэтных мясцінах Беларусі, яе рэгіёнах. І хоць часу ў абрэз, не-не ды і спынішся над цікавым артыкулам, прачытаеш яго цалкам. Часам — з задавальненнем, радасцю за калегу па пяры, часам — з абурэннем. Прытым задавальненне часцей прыносяць публікацыі незалежных газет, скажам, віленскай "Нашай Нівы", а ў апошні час — "Народнай волі". А "Свабода" ці "Имя" прачытваюцца ад пачатку да канца. Больш засмучаюць публікацыі афіцыйнага друку, скажам, "Знамени юности". Зрэшты, падзел тут вельмі ўмоўны. Бо па змесце, па духу "Літаратура і мастацтва", "Наша слова", "Культура", "Голас Радзімы", "Полымя" куды больш незалежныя, чым "грамадска-палітычная" "Цэнтральная газета". Публіцыстыка В.Жданко ў афіцыйнай "Звяздзе" куды больш смелая, чым самыя вострыя артыкулы "Свободных новостей плюс". Бо многае тут залежыць не ад месца публікацыі, а ад грамадзянскай пазіцыі аўтара.

Чытаючы незалежную прэсу, я найперш, побач з аб'ектыўнай інфармацыяй, шукаю адказу на самыя важныя для мяне, для ўсіх нас пытанні: у якім грамадстве мы жывём і куды ідзём. І часцей за ўсё не знаходжу, бо замест удумлівага аналізу сустракаю агульныя фразы, абстрактную кваціста́сць або сенсацыйнасць, імкненне выклікаць скандал.

І незалежная, і тым больш афіцыйная прэса неяк ухіляюцца ад сакраментальнага пытання: якая ж у нас цяпер сістэма ўлады, хто намі кіруе? У дачыненні да мінулага — усё ясна: там улада належала класам (феадалам) або партыям (бальшавікам). У дачыненні да Захаду таксама ясна: урад фармуе партыя, што перамагае на выбарах. А хто ж кіруе ў краінах, што ўтварыліся на тэрыторыі Савецкага Саюза? Класы ці саслоўі? Але, здаецца, яны ўжо і зніклі, самараствараліся. Партыі, якія перамаглі на парламенцкіх выбарах? Да гэтага яшчэ далёка, асабліва ў Беларусі. Тады хто ж сёння кіруе ці змагаецца за ўладу? Мне здаецца, што гэта можна было б акрэсліць далікатным словам **эліта, эліты.** Праўда, Андрэй Сяржан прапануе ў "Свабодзе" (1995, N 5) больш негатыўнае словазлучэнне — "уладарныя кланы". Ёсць і іншыя, яшчэ больш негатыўныя вызначэнні: касты, мафіі. Але давайце ўсё ж карыстацца нейтральным ці нават дадатным словам "эліта". Бо само прызнанне, што намі кіруе эліта, што мы знаходзімся на стадыі элітарызму, яшчэ не выклікае ні станоўчых, ні адмоўных эмоцый. Уся справа ў тым, **якая** эліта: інтэлектуальная ці не вельмі, нацыянальная ці антынацыянальная, карумпаваная ці сумленная. І якая харызма ў яе лідэраў — Хрыста ці Антыхрыста?

Вы спытаеце: а пры чым тут незалежная прэса? А пры тым, што яна павінна ўплываць на фармаванне і паўсядзённую дзейнасць эліт, вызначыць гэтую харызму. Эліты ўжо існуюць, на гэта, як кажуць, няма рады. І цяпер самае важнае, каб элітарнае праўленне не ператваралася ў таталітарнае. Якія тут могуць быць панацэі? Найперш высокая духоўнасць, не вонкавая, а шчырая рэлігійнасць, адукаванасць, культурнасць, але таксама галоснасць, публічнасць. Эліты трэба выхоўваць. І ў гэтым бачыцца адна з найважнейшых задач незалежнага друку.

Такога ж паўсядзённага выхавання на канкрэтных фактах патрабуе і шараговы чытач, які складае аснову электарату, а таму і істотна ўплывае на нашу будучыню. Гэты радавы грамадзянін сёння часта разгублены, дэзарыентаваны, бо не ўпэўнены ні ў сабе, ні ў сваёй будучыні. Ён лёгка паддаецца папулісцкім абяцанкам, масавым псіхозам і стрэсам. Абяцаная выплата зарплаты для яго часта важней, чым дэмакратычныя ці агульналюдскія каштоўнасці. А тут яшчэ сродкі масавай інфармацыі выхоўваюць у гэтага грамадзяніна пачуццё нянавісці. Сумна вядомы фільм Ю.Азаронка можа, як піша ў "Народнай газеце" Сяргей Плыткевіч (1995, 1 жн.), перарасці і перарастае ў доўгі серыял. Адны выданні і тэлеперадачы нацкоўваюць чытачоў і гледачоў супраць БНФ, другія, праўда, больш тактоўна — супраць камуністаў і лукашэнкаўцаў. Беларусы супрацьстаўляюцца рускім і наадварот, а ўсе яны — палякам, праваслаўныя — католікам і наадварот, а ўсе яны — уніятам. Усё гэта, як казаў У.Караткевіч, не скончыцца дабром. Усё гэта расколвае шматэтнічнае, шматканфесійнае і шматкультурнае, але адзінае па сваёй сутнасці грамадзянства РБ на варожыя групоўкі. Усё гэта можа давесці талерантных і вонкава рахманых беларусаў да баснійскага сіндрому.

У маім уяўленні, незалежны друк павінен не супрацьстаўляць чытачоў паводле іх этнасу ці веравызнання, а **аб'ядноўваць** іх вакол самых простых, самых элементарных, але тым не менш жыццёва важных ідэй і паняццяў, якія маглі б задаволіць кожнага грамадзяніна РБ незалежна ад яго элітнай, партыйнай, нацыянальнай ці рэлігійнай належнасці.

Якія ж гэта паняцці?

**Па-першае,** у нас ёсць Богам і лёсам дадзеная **зямля.** Мы сюды не прыйшлі. Мы на ёй спрадвеку жылі. У гэтай зямлі ляжаць нашы продкі і будуць пахаваны нашы нашчадкі. Яна для нас самая прыгожая і адзіная, бо іншай нам не дадзена. Таму мы павінны яе прыхарошваць, шанаваць, берагчы ад чарнобыляў і да таго падобных катаклізмаў.

**Па-другое,** у гэтай зямлі ёсць **гаспадар,** яе народ. Ён мае сваю гаспадарку — і тут не так ужо істотна, якая яна: прыватная, кааператыўная ці дзяржаўная. Важна іншае: жыхар зямлі беларускай не можа працаваць несумленна, не можа вырабляць дрэнныя рэчы. Слова "гаспадар" павінна гучаць горда (яно адпавядае нам больш, чым скарочанае "спадар") і ўжывацца ў дачыненні да ўсіх, хто гэтага заслугоўвае.

**Па-трэцяе,** у гэтага народа ёсць свая **мова,** таксама спрадвечная, таксама Богам дадзеная. Яна прыгожая, мілагучная. На ёй, як засведчыў гістарычны вопыт і ацэнкі суседзяў, можна выказаць самыя ўзнёслыя думкі і пачуцці, самыя складаныя паняцці. Побач з ёй, беларускай мовай, на гэтай зямлі таксама здаўна існуюць іншыя мовы карэнных жыхароў — руская, польская, габрэйская, літоўская, татарская і іншыя. Яны маюць тыя ж правы на развіццё. Беларуская ж мова мае толькі тую перавагу над імі, што з'яўляецца мовай асноўнага і найбольш шматлікага этнасу.

У сувязі з моўным пытаннем дазвольце, шаноўнае спадарства, сказаць колькі слоў пра новыя абставіны, якія склаліся пасля рэферэндуму. Ацэнка яго вынікаў у друку была дыяметральна супрацьлеглай — ад апафеозу ў афіцыйных органах да роспачнага ляманту ў апазіцыйнай прэсе: маўляў, які цёмны і дурны наш народ. Але ж народ ёсць такі, які ён ёсць, якім яго зрабілі стагоддзі русіфікацыі і паланізацыі. Я згодзен з думкай, выказанай у "Нашай Ніве" (1995, N 6), у "Дзённіку прыватнага чалавека", што рэферэндум меў для беларускай нацыянальнай справы і станоўчае значэнне. У выніку яго "беларуская ідэя матэрыялізавалася. Яна перастала быць фікцыяй, міфам, выдумкай вузкага кола рамантыкаў". І сапраўды, рэферэндум красамоўна паказаў, што беларускамоўныя беларусы з'яўляюцца моўна-культурнай меншасцю сярод рускамоўных беларусаў ("чыстых" палякаў і рускіх пакінем убаку). Меншасцю не такой ужо і малой — пры паўсядзённай настойлівай прагматычнай працы яна можа стаць большасцю. Але пакуль што яна — прыніжаная меншасць і як такая мае права на падтрымку і абарону міжнароднай грамадскасці. У першую чаргу, гэта датычыцца **раўнапраўя** абедзвюх дзяржаўных моў. Сённяшні грамадзянін нашай краіны павінен аднолькава добра ведаць не толькі рускую, але і беларускую мову. На жаль, ён часцей за ўсё не ведае добра ніякай, гаворыць на "трасянцы", густа перасыпанай матам ("мататрасянцы"). Двухмоўе ператварылася ў бязмоўе. І таму наша грамадскасць, незалежны друк павінны сказаць рашучае "не" "трасянцы".

**Па-чацвёртае,** у нашага народа ёсць багатая і шматвяковая **культура** — такая ж этнічна і рэлігійна шматаблічная, як і ён сам. Некаторыя з'явы яе — фальклор, драўлянае дойлідства, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва — прызнаны унікальнымі ў свеце. У гэтай культуры адбіліся ўплывы нашых усходніх і заходніх суседзяў. Але такую нашу адкрытасць не трэба драматызаваць. Беларусы часам разглядаюць русіфікацыю і паланізацыю толькі як няшчасце. А вось прафесар Бруна Дрвескі нядаўна, на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў, глянуўшы на нашы комплексы з Парыжа, прыйшоў да іншай высновы. На яго думку, рускія ўплывы не далі нам цалкам паланізавацца, а польскія — русіфікавацца. Адным словам, яны зрабілі нас тым, чым мы ёсць, што вызначае нашу адметнасць і што дапаможа нам інтэгравацца ў Еўропу раней і лягчэй, чым іншым краінам СНД.

Нарэшце, **па-пятае,** у нас ёсць свая **дзяржава.** Упершыню з часоў Полацкага, Тураўскага і Наваградскага княстваў мы не дзелім яе ні з этнічнымі літоўцамі, як у часы ВКЛ, ні з палякамі, як у Рэчы Паспалітай, ні з рускімі, як у Расійскай імперыі ці СССР. Упершыню мы выступаем у ёй не пад чужым, а пад уласным этнічным найменнем. Вядома, можна спрачацца пра ступень суверэннасці нашай дзяржавы, пра яе адкрытасць на адны ўплывы і прыкрытасць на другія. Але ж Рэспубліка Беларусь існуе як рэальнасць, як гістарычная дадзенасць. І кожны яе грамадзянін, нягледзячы на сваё паходжанне ці палітычныя погляды, павінен, абавязаны быць яе патрыётам. Бо інакш ён будзе ворагам самому сабе. Бо ад стабільнасці ў краіне, ад яе росквіту залежыць і яго асабісты дабрабыт.

Такім чынам, аб'ядноўваючы чытачоў вакол асноўных паняццяў "зямля", "гаспадарка", "мова", "культура", "дзяржава", незалежны друк можа істотна спрычыніцца да фармавання дэмакратычнага грамадства, яго чалавечага развіцця. Вядома, без палітычнай барацьбы не абысціся. Кожнае выданне выяўляе свае сімпатыі і антыпатыі. Былі, ёсць і будуць крайнасці ("Свабода" — і "Дзеці і мы"). Але асноўную ролю павінны адыграць праwaцэнтрысцкія і левацэнтрысцкія выданні.

І яшчэ адзін вельмі істотны, з майго пункту гледжання, момант. Незалежнае выданне — гэта найперш імя, асоба рэдактара або вядучага публіцыста. Я не ўяўляю сабе "Народную волю" без Іосіфа Сярэдзіча, "Нашу Ніву" — без Сяргея Дубаўца, "Свабоду" — без Алега Груздзіловіча, "Белоруссию" — без Ігара Асінскага. Ад майстэрства, кампетэнтнасці, грамадзянскасці асноўных аўтараў залежыць і папулярнасць выдання, яго жыццястойкасць у канкурэнтнай барацьбе. Бо незалежных выданняў у Беларусі сёння ўжо нямала, а, можа, і зашмат. Пры абмежаваных фінансавых магчымасцях нашых чытачоў яны мусяць або аб'ядноўвацца, або закрывацца (шкада, напрыклад, што знікла "Европейское время" С.Букчына). Вось і мы, робячы ў Цэнтры імя Скарыны падпіску для Банка інфармацыі на IV квартал 1995 г., былі вымушаны адмовіцца ад "Имя", "Свободных новостей плюс", іншых газет і нават ад "Беларускай маладзёжнай" і пакінуць толькі "Народную волю", "Свабоду", "Нашу Ніву" ды "Белорусскую деловую газету". А што рабіць — з бюджэту не можам узяць на падпіску ні рубля, а адпаведная спонсарская дапамога няўмольна скарачаецца.

А як жа быць, скажаце вы, з адказам на пытанне, пастаўленае ў загалоўку? Дараслі мы да свабоднай, незалежнай прэсы ці не дараслі? На жаль, калі меркаваць нават па тыражах, не дараслі. Асноўнай чытацкай масе патрэбны афіцыёз, які думаў бы за яе, навязваў сваю думку. Разам з гэтым афіцыёзам так лёгка кідацца ад адной крайнасці ў другую, ад заклікаў да татальнай беларусізацыі, напрыклад, да татальнай русіфікацыі, а потым выпраўляць перагібы, дзяржаўным коштам, вядома.

Значыць, беларускай неафіцыйнай прэсе наканаваны цярністы шлях. Ствараючы самую сябе, яна мусіць аднача́сова ствараць цывілізаванае і дэмакратычнае сярэдняе саслоўе. Альтэрнатывы тут няма. Бо інакш, як піша ў газеце "Имя" маладая журналістка Вераніка Чаркасава, будзе канец свету "ў адной асобна ўзятай рэспубліцы".

*Выступленне на II Міжнародным кангрэсе беларускага ПЭН-цэнтра*

# КУЛЬТУРА: ЭВАЛЮЦЫЯ І ТРАДЫЦЫЯ

БЕЛАРУСКАЯ ВЕРСІЯ

ЦІ ЛІЧЫЦЕ вы сябе культурным? Думаю, мала хто адкажа на такое пытанне адмоўна, бо звычайныя ўяўленні аб культурнасці абмяжоўваюцца ледзь не ўменнем чытаць і не пляваць на падлогу ў грамадскім месцы. Ну, а калі ў вас яшчэ ёсць капялюш, гальштук і не вельмі сіпаты голас, то можаце прэтэндаваць і на інтэлігентнасць — адмысловую рускую катэгорыю з пазнейшымі пралетарска-лаянкавымі наслаеннямі. А калі без "наслаенняў"? То, напрыклад, як у вас з замежнымі мовамі, правіламі свецкага этыкету, эстэтыкай ці проста з густам? У мяне, сказаць шчыра, не вельмі добра, хоць калі-нікалі даводзілася пачуць: "Іш ты, антылігент які выіскаўся!" У рэшце рэшт я залічыў сябе да катэгорыі малакультурных інтэлігентаў, тыповага прадукту самадзейнасць, КВНшчына ды іншая "смехатура", бо гісторыя кожнай з іх вымагае асобнай гаворкі. Звернемся да такой больш цёмнай і не менш вядомай з'явы, як крымінальная, або блатная культура.

Гэта, можна сказаць, самы крайні полюс непадцэнзурнай культуры, нават антыпод камуністычнага афіцыёзу, і ў той жа час неад'емная, заканамерная частка ўсёй савецкай сістэмы. Было б дзіўна, каб дзесяткі мільёнаў людзей, прайшоўшы праз турмы і гулагі, не стварылі свайго, альтэрнатыўнага культурнага погляду. Не думаю, што гэтая плынь была б такой вядомай і распрацаванай, каб да яе прыклалі руку толькі крымінальнікі. Яе стваралі і распаўсюджвалі і многія палітычныя вязні. Такім чынам, папулярнасць блатных песень, "фені", татуіровак ды іншага крымінальнага "шарму" і звычак ёсць натуральная адплата савецкаму І калі ў дзяржаве пераважае такая культура, то лёс яе, бадай, прадвызначаны: меншая частка "кіруе", плюючы на законы, — большая гарбаціцца (ці толькі робіць выгляд), не ведаючы, што нейкія законы ёсць; меншая частка тлусцее і багацее, — большая бяднее і співаецца; адна — крадзе і ўцякае, другая ловіць і даганяе і г. д., а ўрэшце ўсе разам выраджаюцца і дэградуюць. Асобныя з гэтых рысаў былі характэрны для розных стадый сацыялізму, а сёння ў новых формах бурна развіваюцца ў Расіі і значна цішэй — на Беларусі. Розніца за кошт таго, што начальства нашых усходніх братоў мае больш хваткі, розуму і амбіцый, а працоўныя і беспрацоўныя масы — менш сацыяльных ілюзій і цудадзейных спадзяванняў. Таму ў іх так хутка адбываецца крышталізацыя палітычна-мафіёзных структур і новага мар- савецкага часу і ўласнай рэфлексіі.

Адно мяне суцяшае: калі гляну на вяршыню нашай дзяржаўнай піраміды, то бачу, што можна быць і пры гальштуку і пры высокай пасадзе і не абцяжарваць сябе культурнасцю. І гэта таксама не парадокс, а прадукт эпохі і ўжо адсутнасці самарэфлексіі. Бадай, і сапраўды навошта тая культура і міфічная інтэлігентнасць, калі трэба рабіць "справу", "працаваць рукамі, а не языком". Вось я і раблю, хіба толькі адной рукой — той, у каторай трымаю самапіску. А яна піша: "Культура вызначае палітыку, эканоміку, лёс народа і дзяржавы". У такой "самапіснай" формуле, пэўна, і трымаецца адказ на пытанне "Што такое наша дзяржава?" Суверэнная настолькі, наколькі самастойная наша культура. Незалежная настолькі, наколькі культурна самадастатковы і развіты наш народ.

Неяк на старонках "НН" прамільгнула даволі аптымістычнае азначэнне беларускіх спраў — "Новая Культурная Сітуацыя". Відаць, пра новыя стасункі можна казаць толькі ў палітыцы, а ў культуры ёсць хіба што прадумовы для перамен, і за тым нешматлікім новым не трэба забываць учэпістае старое, якое і вызначае асноўныя рысы нашага становішча.

Крыху спрошчваючы карціну, можна было б так абмаляваць сённяшні культурны ландшафт на Беларусі. Асобныя астравы і выспачкі беларушчыны, больш шматлікія выспы і паўвыспы расійскага паходжання ў моры савецкай культуры, яе адходаў і выкідаў. Усё гэта густа паліваецца "залатым дажджом" заходняй (пераважна амерыканскай) цывілізацыі, уздзеянне якой пакуль малазначнае. Самым складаным, пераважаючым кольксана, сацыяльна і псіхалагічна, з'яўляецца ўсё ж савецкая культурная спадчына.

Савецкая культура — унікальная з'ява. І хоць яна ў пэўным сэнсе спадкаемка старой расійшчыны, і мяжу між імі не заўсёды лёгка заўважыць, але ў "савецчыны" ўсё ж многа сваіх самабытных рысаў. Без перабольшання, тут вельмі багатая глеба для розных доследаў, тэорый, культуралагічных адкрыццяў і меркаванняў. Відавочна, што савецкая культура не знікла разам з СССР і, думаю, працягвае развівацца па сваіх законах. Знік ці, прынамсі, хутка разбураецца хіба што савецкі афіцыёз, які трымаўся на ідэалагічным дыктаце і бязмерных матэрыяльных уліваннях. Але савецкая культура мела іншыя, менш артадаксальныя плыні, адны з якіх таксама чэзнуць, другія ж працягваюць жыць. Пакінем убаку такія з'явы, як дысідэнцтва, аўтарская песня, народная



*Фота А. МАЦЮША*

грамадству за татальны прымус, за "выцісканне" нацыянальна-культурных традыцый ды іх носьбітаў-спажыўцоў у маргінальныя слаі.

Люмпенізацыя і блатная культура цесна звязаны і ўяўляюць сабой даволі сур'ёзныя і характэрныя наступствы камуністычнага панавання. Па іхніх рахунках, праўда, прыходзіцца плаціць пост-савецкім дзяржавам, на лёсе якіх гэта можа адбіцца самым непасрэдным чынам. З маргіналіяў (у дадзеным выпадку люмпенска-блатной культуры) заканамерна вырастаюць рабска-калектывісцкія фантомы і дэструктыўна-камуністычныя ідэалы, якія для свайго існавання патрабуюць дыктатарскага ці таталітарнага кіравання. гінальнага грамадства. У нас такое развіццё тармозіцца, з аднаго боку, недзеяздольнасцю кіраўніцтва і моцнай камуністычнай настальгіяй "простага люду", а з другога — спробамі нацыянальна-дэмакратычных сіл звярнуць працэс у больш цывілізаванае, еўрапейскае рэчышча. Апошні фактар так і не стаў вырашальным, а першыя два толькі расцягваюць "постсавецкі час", паглыбляючы яго "хваробы" і не даючы новых сродкаў "аздараўлення".

Аднак беларускае "адставанне" на 2—3 гады не мяняе сітуацыю прынцыпова: грамадства палярызуецца; маргінізацыя ці распад "сярэдняга класа" становіцца лёсавырашальным. У такіх умовах лёгка перамагаюць Лукашэнка, Жырыноўскі ці іншыя "бацькі-атаманы", для якіх існаванне магчыма толькі ў "мутнай палітычнай вадзе", у вечным змаганні з "ворагамі народа і дзяржавы", у час перманентнай вайны розных сацыяльных, этнічных, канфесійных груп, барацьбы шматлікіх квазі-партый, мафіёзных кланаў і г. д.

Што ж можна супрацьпаставіць гэтай бясплённай ваяўнічасці і люмпенскай дэструкцыі сённяшняга часу? На маю думку, толькі канструктыўны: стваральны рух, напрыклад, ідэю Беларусі як нашага агульнага дому, самадастатковага і самакаштоўнага, маючага свае законы, інтарэсы, пазіцыі і мэты. Беларуская нацыянальная традыцыя, пры ўмове яе мадэрнізацыі, магла б стаць падмуркам гэтага дома, культурным стрыжнем, "сярэдзінным шляхам" далейшага развіцця. Пакуль жа яна знаходзіцца на ўзбочыне тутэйшага быцця, а галоўныя жыццёвыя струмені ідуць ці побач з ёй, ці зусім у другім напрамку. Таму пашырэнне сацыяльна-культурнага ўплыву беларушчыны ў розных сферах ёсць адзіная надзея на выжыванне.

Што новага прынеслі апошнія 5 год? Найбольш заўважны і, бадай, адзіны кардынальны зрух — гэта беларуская гістарыяграфія, спроба новага асэнсавання нашай мінуўшчыны. Яна можа быць асноваю далейшага нацыянальнага росту, аднак сёння гэтага мала. Бліжэйшы час мусіць стаць перыядам будзённай, "арганічнай" працы, часам стварэння ўласных навуковых школ і кірункаў, новых мастацкіх ідэй і праектаў, філасофскіх пошукаў, інфармацыйных і асветніцкіх праграм, тэхналагічных, экалагічных, гуманітарных ініцыятыў. Адным словам, беларушчына мусіць пакінуць вузкапалітычнае рэчышча і лапатна-этнаграфічную канаву і разліцца на больш шырокіх абшарах сучаснага жыцця з яго касмапалітызмам, камп'ютэрнымі рытмамі, сексуальнымі контррэвалюцыямі і законамі рынкавых адносін. Усе небяспечнасці гэтага шляху нават цяжка сабе ўявіць, прытым, што вялікіх надзей на дзяржаву ўжо няма. Жорсткая канкурэнцыя, рэаліі свабоднага рынку і вольнага свету не менш небяспечныя, чым умовы таталітарнага ладу (а магчыма, і больш — бо не будзе маральнай падтрымкі і палітычнага апраўдання). Няма гарантыі, што яна не прывядзе да згубы ці канчатковай "дысперсіі" ў больш моцных культурах. Аднак калі зможам ўратавацца, то гэта ўжо будзе не чыстанародная, ідэальная, а даволі зашмальцаваная, мадэрновая і ўсё ж такі жывая — беларушчына. Вопыт сведчыць, што больш жыццястойкія якраз "мутанты" — культурныя "сплавы", здольныя ўспрымаць і "пераварыць" іншыя традыцыі. У гэтым плане станоўчую ролю магла б адыграць заходняя "агрэсія" на Беларусі, асабліва больш блізкая і зразумелая нам — нямецкая. І хоць інфармацыйныя люкі ўжо прыадчынены некалькі гадоў, але вынікі пакуль не радуюць. І справа не толькі ў тым, што лягчэй і танней спажываць адходы заходняй культуры, а ў тым, што павінна быць уласная воля, ініцыятыва, свая пазіцыя ў культурнай ды любой іншай палітыцы. Вопыт Германіі, Японіі, Чылі сведчыць, што ўплыў нават "праклятай" Амерыкі можа даць вялікі станоўчы вынік, падштурхнуўшы развіццё народаў і дзяржаў. Трэба толькі творча й крытычна прымаць гэты ўплыў, скіроўваць усялякую дапамогу ў патрэбнае для сябе рэчышча, дзеля ўласнай карысці, нацыянальнай выгоды...

Вось кола і замкнулася: каб будаваць Беларускі Дом, трэба быць беларусам хаця б па духу і светаадчуванні (а ці шмат у нас такіх?), а каб рабіць яго найсучаснейшым, трэба яшчэ быць упэўненым, што ягоныя традыцыі-падмуркі настолькі глыбокія і моцныя, што вытрымаюць любыя мадэрнізацыі і футурыстычныя праекты. А гэта ўжо хутчэй пытанне веры, а не разумення. Веры ў культуру, веры ў свой шлях, веры ў Беларусь.

Ці шмат у цябе вернікаў, Беларусь?

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

## ДОБРАЯ ПАМЯЦЬ ПРА ПЕСНЯРА



**Добрую памяць захоўваюць у далёкай палескай вёсцы Люсіна, што ў Ганцавіцкім раёне, пра народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У мясцовай школе чатырнаццаты год працуе коласаўскі музей, у якім пабывала за гэтыя гады больш за 50 тысяч турыстаў. Акрамя беларусаў, тут былі госці з Расіі і Амерыкі, палякі, немцы, азербайджанцы, кіргізы...**



**Удала падабраны матэрыял расказвае пра настаўніцтва Якуба Коласа ў 1902—1904 гадах. Сабрана больш за дзвесце экспанатаў побыту таго часу, якія добра дапаўняюць асноўную экспазіцыю.**

*На здымках: у музеі Якуба Коласа ў Люсінскай школе. Вучаніца другога класа Оля Мелехавец у "Хаце палешука" — так называецца адзін з раздзелаў музея.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

## З'ЯВІЎСЯ ТУРЭЦКА-БЕЛАРУСКІ РАЗМОЎНІК...

**Арыгінальны, складзены яшчэ ў 1836 годзе, размоўнік захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Нацыянальнага музея Летувы. Пабачыў жа ён свет не без падтрымкі беларускай дыяспары, таму ў выхадных дадзеных і значыцца: Нью-Йорк—Вільня. Падрыхтаваў размоўнік да друку С. Шупа, а каментарыі, прадмову ён зрабіў разам з Г. Александровіч-Мішкінене. Як сказана ва ўступе, "сярод усіх ведамых дагэтуль помнікаў пісьменства беларускіх татараў, створаных у беларускай мове на графічнай аснове арабскага алфавіту, дадзены рукапіс вылучаецца сваёй унікальнасцю. Сярод дзесяткаў кітабаў, тэфсіраў, хамаілаў і зборнікаў іншага роду, ён адзіны прадстаўляе жанр слоўніка-размоўніка, прыктычна-дыдактычнага дапаможніка, значэнне якога выходзіць за межы замкнёнай этнарэлігійнай супольнасці беларускіх татараў".**

**Усяго ў слоўніку каля 1000 лексічных адзінак, якія ахопліваюць дваццаць тэм.**

Таццяна АНДРЭЙЧАНКА

# МЕТАМАРФОЗЫ АЛЕГА МІНКІНА

Імя Алега Мінкіна даўно вядома прыхільнікам беларушчыны. Два паэтычныя і тры перакладчыцкія зборнікі, дзіцячая кніжка, публікацыі ў перыёдыцы — такі набытак ужо дазваляе крытыцы перайсці ад прыватных заўваг да некаторых абагульненняў наконт творчага аблічча гэтага паэта. І тым не менш, як слушна было заўважана ў рэцэнзіі на мінкінаўскія пераклады з Б. Лесьмяна, — "ані стуку, ані груку". На думку нашаніўскага рэцэнзента, галоўная прычына таго, што вастрыё крытычнай стралы не дасягае Вільні, — тая, што А. Мінкін ідзе сваім асобным шляхам, нават і выпадкова не судакранаючыся з агульным літаратурным працэсам у нашай рэспубліцы. Праўда, аўтар рэцэнзіі не ўдакладніў галоўнага: а ў чым жа адрозненне гэтага працэсу, што лічыць за ягоную сутнасную адзнаку? Не будзем жа мы лічыць, быццам сама працяглая адсутнасць на роднай берасцейскай зямлі станоўча паўплывала на паэта... На гэта хацелася б прывесці вядомыя словы вялікага іспанца Лопэ дэ Вэга: "Я ад'язджаю ў край далёкі, а сэрца застаецца з вамі..."

З вамі — гэта значыць з намі. А што ж мы?

Калі пагадзіцца з тым, што глыбіннай сутнасцю сучаснага літаратурнага працэсу з'яўляецца паступовае, супярэчлівае, хваравітае і далёка не аднадушнае імкненне да вызвалення ўласнае пісьменніцкае свядомасці і, галоўнае, падсвядомасці ад уздзеяння моцнага расійскага і расійскамоўнага літаратурнага магнетызму, ад даўняе звычкі прыслухоўвацца і пераймаць, то можна прыйсці да высновы, што гэты бар'ер даўно ўжо А. Мінкіным пераадолены. Здаецца, што і сам паэт сваімі трыма зборнікамі перакладаў з польскай мовы (Норвід, Лесьмян, Стаф) ясна паказвае нам, які шлях вядзе да свабоды духу: праз заглыбленне ў агульнаеўрапейскі літаратурны кантэкст, праз шуканне рэальных альтэрнатыў геніяльнаму Блоку "со товарищи", у дадзеным выпадку — праз судакрананне з польскай паэзіяй, якая сапраўды дала дастаткова прыкладаў найвышэйшага ўзлёту нацыянальнага паэтычнага генія. Аднак, на маю думку, гэты нябачны бар'ер нават А. Мінкіным, нягледзячы на ўсю геаграфію і на ўсе пераклады, яшчэ далёка не пераадолены. Больш за тое, складваецца ўражанне, што сам паэт, свядома ці не, імкнецца нейкім чынам заблытаць сітуацыю і неяк прыхаваць сапраўдныя шляхі ўласнага разняволення. У гісторыі літаратуры, дарэчы, гэта далёка не першы выпадак, калі для пісьменніка вонкавыя і глыбінныя крыніцы ягонай творчасці зусім розныя. (Нагадаем вядомыя ўспаміны М. Цвятаевай пра М. Валошына, у якіх яна падкрэслівае, што, нягледзячы на ўсе французскія кнігі, пераклады і Парыжы, французская літаратура не была для паэта ісціннай крыніцай ягонай творчасці, а была ёю — Германія, разам з Расіяй. З лёгкае рукі М. Цвятаевай можна нават акрэсліць падобныя выпадкі, як "Сіндром Валошына" ў літаратуры. Іншае пытанне, наколькі асобны мінкінаўскі шлях можа быць прыкладам для іншых, але, як падаецца, ужо тыя "літгузакі", якія набіў А. Мінкін у пошуках выйсця, заслугоўваюць нашай павагі і ўдзячнасці, бо і лоб у яго застаўся цэлым, і з Мінатаўрам давялося паспаборнічаць...

Звернемся да перадапошняй і адзінай пакуль што дзіцячай кнігі Алега Мінкіна "За месяцам месяц" ("Юнацтва", 1994). Думаецца, што іменна на прыкладзе дзіцячай кнігі лепей і яскравей будзе бачна тое, што "дарослы" аўтар пры адпаведным майстэрстве, спрыце і агульнай начытанасці можа "прыхаваць". У гэтым сэнсе дзіцячыя кнігі — гэта сапраўдны баль пісьменніцкай падсвядомасці, на якім яна танчыць не горш за Папялушку, з той толькі розніцай, што час ад часу "па-даросламу" не-не, дый гляне на гадзіннік...

Гэтая кніга, падкрэслім адразу, не з'яўляецца ні абсалютным поспехам аўтара, ні ягонаю абсалютнаю няўдачаю. Але і яе прывабнасці, і яе хібы шмат у чым абумоўліваюцца тым, які "ўзор" меў перад сабою аўтар, на каго або на што падсвядома арыентаваўся. Паспрабуем гэта акрэсліць.

Кніга складаецца з двух раздзелаў: першы — паэтычны — уключае ў сябе вершы на традыцыйную тэму гадавога калавароту і вершы пра розныя міфічныя істоты. Другі — празаічны (казка "Лета ў Грыбоніі"). Вартыя ўвагі і першы, і другі.

Вядома, што практычна кожны з нашых суседзяў і не-суседзяў мае сваю найбольш папулярную нізку вершаў пра кожны месяц. Маем, дарэчы, і мы — "Беларускую прыроду" А. Зязюлі, але пакуль да таго Зязюлі дойдуць рукі хаця б укладальнікаў хрэстаматый! Таму для нашых дзяцей яшчэ доўга застануцца найбольш вядомымі (калі не любімымі) вершы з "Круглага года" С. Маршака — зразуме-ла, што па-руску, і зразумела, што і для бацькоў, і для дзяцей. Аналіз вершаў А. Мінкіна сведчыць, што ён, з аднаго боку, ідзе след у след за Маршаком, а з другога боку, палемізуе з ім. У Маршака, як памятаецца, усе месяцы пададзены аб'ектыўна, іхнія назвы лацінскага паходжання ніякім чынам не могуць быць звязанымі з тым, што ў пэўны момант адбываецца ў прыродзе (як у беларускім варыянце: снежань — снежыць і г. д.). Да таго ж, амаль кожны з маршакоўскіх месяцаў "памятае" пра тое, якія палітычныя падзеі ў ім адбываюцца ("День седьмого ноября — красный день календаря..."). У выніку галоўным у Маршака часта аказваюцца не прыродныя змены, а чаргаванне палітычных святаў. У Мінкіна гэтага няма, як няма і згадак пра ўстойлівыя хрысціянскія святы накшталт Народзін Хрыстовых. Ён падае аб'ектыўны малюнак змены месяцаў як іхняе суб'ектыўнае дзеянне пра адухоўліванне кожнае назвы, дзеля чаго робіць назву кожнага месяца ўласным ягоным імем: "Ёсць у Лютага куфар..." І разам з тым Мінкін ідзе па маршакоўскіх слядах, бо менавіта Маршак увёў у рускую дзіцячую літаратуру агульнаславянскую традыцыю ўяўлення дванаццаці месяцаў як дванаццаці братоў. І таму нельга не ўлічваць таго, што ў дадзеным выпадку Мінкін спаборнічае ў чытацкім успрыманні з ужо вядомымі хрэстаматыйнымі маршакоўскімі творамі (і з п'есаю, і з казкаю). Падобна, што гэтае нябачнае спаборніцтва будзе доўжыцца яшчэ даволі часу. Змушана канстатаваць, што апрацоўка славянскага фальклору набыла ў А. Мінкіна характар механічны, каб не сказаць аўтаматычны. Калі ў Маршака пануе гармонія і непарыўная сувязь паміж месяцамі-вобразамі і іхнім атачэннем, то ў Мінкіна яна парушаецца ці ігнаруецца амаль на кожным кроку. У самым першым вершы-зачыне аўтар кліча нас у "край запаветны асілкаў-братоў", але з тэкстаў астатніх вершаў ніяк не вынікае, што месяцы — браты, а тым больш асілкі. Напрыклад, які асілак з Мая, калі А. Мінкін падкрэслівае, што "Хлопчык Май прачнуўся ў сховах". Чалавечы тып сувязяў абсалютна ігнаруецца аўтарам, чаму не ў апошнюю чаргу спрыяюць устаўныя вершава-ныя навелы-замалёўкі, прысвечаныя міфалагічным істотам (дамавіку, пугачу і г. д.). Гэтыя істоты яўна прэтэндуюць на тое, каб выйсці на першае месца, адціснуўшы ўбок куды больш шматлікія месяцы.

Такім чынам, паміж аўтарскімі вобразамі-месяцамі не толькі адсутнічаюць дакляраваныя братэрскія адносіны, але нечакана для нас (і, відаць, і для аўтара) праз недакладную тканку пэўнага вобраза пачынае ўсё настойлівей праглядваць зусім іншы прыклад-вобраз. На мой погляд, гэта традыцыя еўрапейскага "сярэдняга свету", якую найбольш выяўляюць англічанін Толкіен і скандынаўскія аўтары.

Уздоўж усяе нізкі вершаў пра месяцы аўтар парушае і прыродную гармонію, і ім самім заяўленыя характарыстыкі і ўзаемадачыненні. Разам з тым неяк не хочацца думаць, што такі спрактыкаваны, вопытны аўтар, як А. Мінкін, свядома на гэта пайшоў. Мабыць, недарэчнасці таму і маюць месца, што аўтар вонкава нагадвае адно, а ў сапраўднасці зыходзіць зусім з іншага ўзору. У тым, што гэта сапраўды так, нас упэўнівае рытміка-інтанацыйны аналіз вершаў, яскравым прыкладам чаго ёсць мінкінаўскі "Красавік":

**Здараліся адлігі,**
**І зноў кружыўся снег,**
**А сёння крыгі, крыгі**
**Распачалі свой бег.**

**Блакіт нябёсаў яркі,**
**Гракоў бадзёры крык —**
**Плыве на крызе шпаркай**
**Вясёлы Красавік.**

**— Куды вядзеш ты спрытна**
**Свой крыгу-карабель?**
**— У майскі край блакітны**
**За трыдзевяць земель!**

Рытміка-інтанацыйная пабудова гэтага верша, не гаворачы ўжо пра тэматычна-карабельнае падабенства, адпавядае знакамітаму маршакоўскаму: "Плывет, плывет кораблик...":

**Ведет кораблик утка,**
**Испытанный моряк.**
**— Земля! — сказала утка. —**
**Причаливайте! Кряк!**

І вось тут пачынаецца самае цікавае: так, гэта таксама Маршак, але зусім не той, які вядомы нам па "Круглым годзе". Гэта Маршак — знакаміты перакладчык знакамітага ангельскага дзіцячага фальклору, дзе раскашуюць нонсенс, алагізмы і сумяшчаецца несумяшчальнае, у выніку чаго атрымліваецца дзівосны эфект. Таму, мабыць, так патрэбны паэту дамавік з суполкаю, што яны супрацьстаяць штучным вобразам братоў-месяцаў, бо існуюць па рэальных, прыродных законах, у поўнай згодзе з імі. Яны цудоўна суадносяцца з гномамі, гоблінамі і астатнімі істотамі ангельскае міфалогіі. Менавіта яны ўчатырох (агнявік, хохлік, пугач, дамавік) — сапраўдныя героі гэтае нізкі. Складваецца ўражанне, што для А. Мінкіна гадавая хада вымяраецца зусім не тым, які месяц за якім ідзе, асілкі яны ці нямоглыя. Важней тое, што на змену дамавіку прыходзіць пугач, на змену хохліку — агнявік (што падкрэслівае і кампазіцыя нізкі). Вось гэты момант сапраўды можна прызнаць за своеасаблівую беларускую навацыю, за беларускі падыход да прыроднага калаўрота.

Разам з тым у мастацкіх адносінах гэтыя чатыры вобразы атрымаліся неадназначнымі. Найбольш дасканалымі мне ўяўляюцца "Агнявік" ды "Хохлік". Аўтар не пашкадаваў для апошняга вытанчанай рыфмы (калі мы — кілімы). На жаль, двум астатнім вобразам, пугачу і дамавіку, пашанцавала менш: у вершах адчуваецца павярхоўнасць думкі.

**Вандруе па клеці сівы Дамавік,**
**Стукоча маркотна яго чаравік...**

А побач малюнак, які цалкам абвяргае гэтае сцвярджэнне, бо перад намі — Дамавік у двух лапцях! Зразумела, што аўтар ахвяраваў адным чаравікам на карысць рыфмы, але гэта зразумела нам, а не дзецям! Калі чытаеш мінкінаўскага "Дамавіка", міжволі ўспамінаецца маршакоўская Мэры з тае самае ангельскае нізкі:

**У маленькой Мери —**
**большая потеря:**
**пропал ее правый башмак...**

У тым, што глыбокі ўнутраны інтарэс паэта, карані ягоных захапленняў і прыхаваных сімпатый трэба шукаць у Англіі, у ангельскім сярэднявеччы і фальклоры, а не ў Польшчы і польскай літаратуры, — у гэтай думцы нас падтрымлівае сустрэча з другою часткаю мінкінаўскага зборніка — невялікай аповесцю "Лета ў Грыбоніі". Гэта аповесць — свайго роду выклік усім канонам апрацоўкі запазычаных сюжэтаў, характараў і г. д., бо непрыхаваныя запазычанні з сусветнавядомых твораў ангельскай дзіцячай літаратуры, даўно перакладзеных па-руску, літаральна лезуць у вочы. Назавём галоўныя з гэтых крыніц: "Віні-Пух" А. Мілна і "Хобіт" Дж. Толкіена. Аўтар у гэтых выпадках ізноў рызыкуе, і рызыкуе моцна, бо вялікая верагоднасць таго, што дзеці пазнаёмяцца са знакамітымі ангельцамі раней за ягоны твор. А быць залічаным да эпігонаў — рэч не зусім прыемная.

У якасці прыкладу прамога, непрыхаванага запазычання з А. Мілна параўнаем паміж сабою два эпізоды — выратавання Віні-Пуха, які завіснуў з балонікам на вершаліне дрэва, і ратаванне Хмаркі з аповяду Мінкіна:

*"Вінні-Пух первым делом подошел к*

# ГОД, ШЧОДРЫ НА "ЗОРНЫЯ ГАДЗІНЫ"

## ЗГАДВАЮЧЫ МІНУЛЫ ОПЕРНЫ СЕЗОН

Вось і адкрыўся чарговы сезон у Акадэмічным тэатры оперы і балета... Рыхтуючыся да гэтай падзеі, я працавала над матэрыялам, які сёння прапаную ўвазе чытачоў. Пісала яго на апошнім тыдні свайго адпачынку, свядома пазбягаючы званкоў і заходаў у тэатр з мэтай пашырэння, удакладнення, пераправеркі інфармацыі. Хай будзе толькі тое, што моцна ўразіла. Дзякуй Богу, памятнага не так мала...

Мінулы, 62-гі оперны сезон пачаўся вельмі імкліва. Літаральна праз тыдзень пасля яго адкрыцця зусім свежым "Рыгалета" (гэта быў толькі трэці паказ!) публіцы прапанавалі абноўленую Юрыем Аляксандравым "Аіду". Мы анансавалі яе як "амаль прэм'еру", але ж на не вельмі ўважлівы погляд новага было няшмат, і скептычных выказванняў, асабліва ўнутры тэатра, было колькі хочаш. Больш успрымальныя і ўважлівыя былі захоплены дэталёвай псіхалагічнай прапрацоўкай узаемаадносін галоўных персанажаў, дынамічнымі мізансцэнамі ў "камерных" эпізодах, яркасцю пластычнага выяўлення эмоцый (гэта асабліва датычыць процістаяння Аіды і Амнерыс). Дарэчы, калі гэтым летам мы ўбачылі тэлетрансляцыю прэм'ернай "Аіды" з Марыінскага тэатра ў пастаноўцы таго ж Аляксандрава, мы не знайшлі ў ёй падобнай пластычнай выразнасці. Відаць, прымам пецярбургскай "Марыінкі" — Гарчаковай ды Барадзіной–былі не па сілах тыя складаныя мізансцэны і тая падпарадкаванасць цела музыцы і пачуццю, якіх рэжысёр дамогся ад нашых Аід і Амнерыс.

Падзеяй стаўся і першы выхад оперна-сімфанічнага аркестра ДАВТа на філарманічную сцэну. Трэба было бачыць, як валіла на яго публіка — быццам бы прыехаў самы знакаміты замежны калектыў! Думаю, разлік маэстра Анісімава быў беспамылковы — музычная грамадскасць пераканалася, што аркестр ДАВТа, які апошнія гады колькасна павялічваўся (спярша з прагматычнай мэтай — забяспечваць паказ спектакляў на стацыянары падчас працяглых гастроляў оперы), стаў цэласным мастацкім калектывам з вялікай творчай патэнцыяй.

Поспех таго верасtotnёўскага і другога, сакавіцкага (ужо з удзелам і опернага хору) канцэртаў нашага аркестра ў зале сталічнай філармоніі, спадзяюся, павярнуў да тэатра тую частку меламанаў, якая раней яго ігнаравала. Гіпнатычна ўздзейнічаць на аматараў пачало і прозвішча галоўнага дырыжора Аляксандра Анісімава, якому мінулы сезон прынёс кіраўніцтва пастаноўкамі опер у Генуі і Санкт-Пецярбурзе, усталяванне сталага кантакту з парыжскай "Апера дэ Бастыль" і — што асабліва ашаламіла публіку і журналістаў — канцэрт з Мантсерат Кабалье ў Крамлёўскім палацы, данесены тэлебачаннем да кожнага дома. Іншая справа, што ў родным тэатры, на оперных спектаклях, мы цяпер бачым нашу "блукаючую зорку" даволі рэдка, маэстра аказаўся ўбаку ад абедзвюх прэм'ер сезона — "Кармэн" і "Страсцей" ("Рагнеды"), ад гастроляў оперы ў Іспаніі і Германіі.

У Іспанію трупа накіравалася ў першыя дні кастрычніка, паспеўшы адыграць для Камітэта па дзяржаўных прэміях вылучаны на атрыманне гэтай ўзнагароды спектакль "Князь Наваградскі" (прызнаюся, сэрца шчыміць ад жудаснай несправядлівасці — Камітэт прызнаў вартым лаўрэацкай годнасці толькі кампазітара, Андрэя Бандарэнку, і "пракінуў" усіх, хто ствараў сам спектакль, уключаючы нябожчыка Сямёна Штэйна, які стаяў ля вытокаў гэтай оперы і ўвогуле мае неацэнныя заслугі перад беларускім оперным мастацтвам). На шостыя іспанскія гастролі — сапраўдны двухмесячны марафон — павезлі оперы "Рыгалета" і "Аіду", Рэквіем Дж. Вердзі і кантату К. Орфа "Карміна Бурана" ў канцэртным выглядзе. "Аіда", дарэчы, была ўжо сёмым нашым спектаклем, што пабачылі іспанцы. Усё горача прымалася, а сярод герояў вандроўкі на адно з першых месцаў выйшаў наш хор.

А ў гэты час дома, у Мінску, рэшткі трупы самаахвярна змагаліся за публіку — ішлі спектаклі, канцэрты, сустрэчы ў Клубе сяброў оперы, ладзіліся і такія "сямейныя святы", як сотая "Травіята" Тамары Кучынскай ці бенефіс Віктара Чарнабаева. Моладзь спяшалася ўводзіцца ў буйныя партыі — Рыгор Палішчук нарэшце дачакаўся Альмавівы, Ганна Гур'ева праспявала Разіну, Паўліна Елісеева — Царыцу Ночы. Не абдзелены былі працай і маладыя дырыжоры, найперш Андрэй Галанаў.

Але ж, хаця ў цэлым тыя два месяцы падаліся мне больш насычанымі, чым перыяд вясновых іспанскіх гастроляў, адток публікі ўсё ж адбыўся. Толькі самыя апантаныя згаджаліся так доўга блукаць разам з намі ўнутры трохкутніка "Травіята" — "Севільскі цырульнік" — "Галасы маладых". І потым, у снежні, калі афіша "папаўнела", інерцыя хаджэння людзей у тэатр аднавілася не адразу. Можа, таму амаль пуста было на "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета", якую з такой удзячнасцю і такім глыбокім хваляваннем прыняла аўдыторыя на прэм'ерных спектаклях? Я ўвогуле прытрымліваюся пазіцыі, што падчас гастроляў трупы ўвогуле не трэба іграць спектаклі, а калі даваць іх, дык вельмі рэдка. Але гэта не залежыць нават і ад дырэкцыі оперы: планавы паказчык колькасці спектакляў у сезон "спускаецца зверху"...





У студзені — лютым было шмат выдатных спектакляў, аднак кульмінацыяй сталіся ўрачыстасці з нагоды 60-ых угодкаў Зіновія Бабія, якія ладзілі разам ДАВТ і філармонія. На зводнай афішы значыліся тры спектаклі і два канцэрты з удзелам лепшых нашых салістаў і знакамітых гастралёраў. Не магу забыць асалоду ад "Аіды" з Людмілай Магамедавай (зараз яна прадстўляе Berliner Staatsoper), Уладзіславам П'яўко, Наталляй Рудневай і Юрыем Бастрыкавым. Гэты вечар стаў і "зорнай гадзінай" Льва Ляха, які ўпершыню дырыжыраваў "Аідай". У радыёэфіры панаваў у тыя дні непаўторны голас З. Бабія, афішы і фатаграфіі на мемарыяльнай выстаўцы ў нашым фае адлюстроўвалі ўвесь яго нядоўгі артыстычны шлях, славутыя тэнары бабіеўскай генерацыі У. П'яўко ды А. Салаўяненка ахвотна дзяліліся ўспамінамі пра яго. Свята сапраўды ўдалося!

У сакавіку філармонія і тэатр вялікім аўтарскім канцэртам адзначылі 60-годдзе Сяргея Картэса. Гэтай урачыстай акцыі, выдатна падрыхтаванай пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава, папярэднічала вельмі цёплае, нефармальнае ўшанаванне юбіляра на сходзе Клуба сяброў оперы. І калі ўжо я "села на свайго коніка", дык нагадаю яшчэ два клубныя вечары, вечары памяці: рэжысёра С. Штэйна — у студзені і канцэртмайстра С. Талкачова — у красавіку. Якім жывым паўстаў Сямён Львовіч у расказе Тамары Ніжнікавай! Дарэчы, сама Тамара Мікалаеўна спраўляла юбілей гэтай вясной, і ў яе гонар давалася "Царская нявеста", з пастаяннымі партнёрамі спявачкі ды яе студэнткамі ў складзе выканаўцаў.

Водгуллем не такога ўжо далёкага мінулага ўспрымаліся Дні культуры і мастацтва Украіны на Беларусі. На нашай сцэне госці ўладарылі аж тры дні, і толькі ў канцэрце майстроў оперы і балета, дзе былі прадстаўнікі ці не ўсіх тэатраў Украіны, было нешта жывое і цікавае, а пампезную "салянку" адкрыцця і закрыцця Дзён я, прызнацца, ледзь вытрымала. Затое аналагічныя Дні Расіі ў нас, у оперным, праявіліся толькі ўдзелам гастралёраў з Вялікага тэатра ў "Царскай нявесце". Запомніліся яркая Любаша — маскоўская госця Марына Шутава ды ўдалае музычнае кіраўніцтва нашага маэстра Віктара Собалева, які ўпершыню дырыжыраваў "Царскай"...

Як аказалася, гэта быў апошні спектакль Віктара Собалева. Таленавіты, эрудзіраваны, у добрым сэнсе "ўедлівы" музыкант, да таго ж паліглот (гэта так важна, калі тэатр паслядоўна праводзіць лінію на выкананне класічных опер на мове арыгінала!) не падаў заяву аб прадаўжэнні кантракта на наступны сезон. Я шчыра шкадую аб гэтым, як не перастаю шкадаваць аб невытлумачальным для мяне адыходзе з тэатра Маргарыты Ізворска-Елізар'евай неўзабаве пасля яркай пастаноўкі "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета" і паспяховых паказаў двух яе спектакляў на замежных гастролях трупы.

Каб крыху ўраўнаважыць сумнае, нагадаю некалькі прыемных фактаў. Ну, як не радавацца, што, напрыклад, Наталля Кастэнка выконвала галоўныя партыі ў пастаноўках "Вогненнага анёла" С. Пракоф'ева ў Нансі і "Саламеі" Р. Штрауса ў Пецярбурзе, а Наталля Залатарова выйшла на сцэну таго ж Марыінскага тэатра ў вобразе Кацярыны Ізмайлавай? А зусім маладая Таццяна Варапай ужо двойчы выступала з аркестрам Паўла Когана.

І вось, нарэшце, я дабралася да адзінай опернай прэм'еры сезона — "Кармэн". Новае сцэнічнае ўвасабленне геніяльнай оперы, абавязкова на французскай мове і ў арыгінальна аўтарскай рэдакцыі (з размоўнымі дыялогамі), задумвалася даўно, запрашэнне нашай трупы з гэтай назвай на гастролі ў Германію толькі крыху паскорыла выпуск спектакля. На гэты раз мы атрымалі хуткі і відочны доказ плённасці далучэння да сусветнай тэндэнцыі — ужо ў працэсе падрыхтоўкі прэм'еры ўдзельнічаў квартэт салістаў з ЗША і лацінаамерыканскіх краін. Было надзвычай цікава прысутнічаць на рэпетыцыях, калі музычнага кіраўніка пастаноўкі Мікалая Калядку змяняў за пультам стваральнік "Minsk Orchestra" немец Вільгельм Кайтэль, а ў галоўных партыях выходзілі то Наталля Руднева, Наталля Кастэнка, Эдуард Пелагейчанка, Аркадзь Саўчанка, то Нідзія Паласіяс, Лаўра дэ Соўза, Скот Флаэрці і Эктар Гуэдэс. Якая рэдкая магчымасць для непасрэднага параўнання розных вакальных школ, розных традыцый, нават, можна сказаць, розных канцэпцый музычнага тэатра! Ці трэба гаварыць, з якой нецярплівасцю чакала прэм'еры публіка! І прыняла яе надзвычай прыхільна.

Наконт новай версіі нашай "Кармэн" спрачаюцца і, упэўнена, будуць і надалей спрачацца крытыкі. Думаю, для цікаўнага гледача гэта толькі павышае прыцягальнасць спектакля. Я ж сама адношуся да ліку тых, хто аддае безумоўную перавагу апошняй пастановачнай версіі ў параўнанні з папярэдняй, 1990 года, хаця рэжысёр у абодвух выпадках адзін — Вячаслаў Цюпа. Новая "Кармэн" ачышчана ад мітуслівасці і аперэтачнага налёту, звернута ў глыбіні чалавечай душы, утрымлівае значна больш "буйных планаў" герояў. І выканаўцы адчуваюць сябе ў ёй больш натуральна, свабодна. Вельмі пераканальнай падаецца мне лаканічнае сцэнаграфічнае вырашэнне Людмілы Ганчаровай, у якім з першай хвіліны выразна прачытваецца вобраз карыды, а "паўнеба" на задніку, па-рознаму асветленае, моцна ўплывае на стварэнне патрэбнай эмацыянальнай атмасферы.

Чэрвень і ліпень — апошнія месяцы перад адпачынкам — дарылі нам радасць за радасцю. З трыумфам прайшлі першыя гастролі трупы ў Германіі. Нашу "Кармэн", як сведчаць відавочцы, прынялі ў Гамбургу і Штадэ "па ўсіх лініях" — задаволілі дасведчаную публіку і музычнае прачытанне, і рэжысура, і сцэнаграфія, і ўзровень выканаўцаў, уключаючы хор і аркестр. Дарэчы, там, ужо не на нашых вачах, адбылося тое, чаго мне вельмі хацелася ў Мінску, — змяшаліся "нашы" і "чужынцы" ў квартэце выканаўцаў галоўных партый. У ансамблі з Наталляй Рудневай выступалі Скот Флаэрці, Лаўра дэ Соўза і Эктар Гуэдэс.

Вяртанне нашых тырумфатараў дадому супала з прыемнай весткай — у Цюрыху знайшоўся фонд "Pro Helvetia", гатовы матэрыяльна падтрымаць пастаноўку оперы Сяргея Картэса "Візіт дамы" паводле п'есы знакамітага швейцарскага драматурга Фрыдрыха Дзюрэнмата. Ёсць надзея, што 20000 швейцарскіх франкаў у дапаўненне да сродкаў, выдзеленых Міністэрствам культуры, дазволяць увасобіць у поўным аб'ёме грандыёзную пастановачную задуму рэжысёра Мікалая Пінігіна і мастака Зіновія Марголіна!

Амаль у тыя ж дні група беларускіх мастакоў тэатра, а сярод іх Людміла Ганчарова і Элеанора Грыгарук з ДАВТа, дэманстравалі свае работы на Сусветнай выстаўцы сцэнаграфіі, касцюма і тэатральнай архітэктуры ў Празе — "Праске квадрыенале". Першы выхад беларусаў на адзіную такога кшталту выстаўку, заснаваную вялікім сцэнографам нашага часу Ёзафам Свабодай, прыцягнуў увагу калег з розных краін, а З. Марголін атрымаў сярэбраны медаль квадрыенале.

Завяршальныя тыдні сезона прайшлі нібыта ў шчаслівай ліхаманцы. Трэба было дзяліць час паміж ранішнімі прагонамі "Рагнеды", вячэрнімі спеўкамі па "Візіце дамы" ў 501-м рэпетыцыйным класе, апошнімі спектаклямі і неабходнымі справамі. Нічым не хацелася ахвяраваць. Ці часта здараецца, што абодва крылы тэатра — балет і опера — адначасова, толькі са зрухам па фазе, працуюць над падрыхтоўкай буйнамаштабных спектакляў, ды яшчэ на беларускім матэрыяле? Для мяне асабіста цікавасць узмацнялася тым, што музычным кіраўніком абедзвюх прэм'ер стаў Генадзь Праватораў, дырыжор фантастычнай адоранасці, з якім звязана так многа незабыўных эстэтычных узрушэнняў. Сапраўдным адкрыццём быццам бы ўжо добра знаёмай музыкі "Візіту дамы" зрабіліся для мяне праватораўскія рэпетыцыі, калі ўсе ўдзельнікі пастаноўкі былі ўцягнуты ў захапляльны працэс пошуку патрэбных, псіхалагічна апраўданых інтанацый, разграбання паверхневых пластоў сэнсу і пранікнення ў самую сутнасць характараў і з'яў.

І вось балет "Страсці" ("Рагнеда") убачыў святло рампы, стаўшы вялікай творчай перамогай Андрэя Мдзівані, Валянціна Елізар'ева, Вячаслава Окунева, Генадзя Праваторава, усіх, хто над прэм'ерай працаваў. Наперадзе — "Візіт дамы". Ёсць усе падставы чакаць і ад гэтага спектакля вельмі многага. Прэм'ера плануецца на 5 лістапада. Калі нішто не перашкодзіць... Стукаю па дрэве...

**Алена САЛАМАХА,**
**загадчык літаратурнай часткі ДАВТа**

*На здымках: сцэны з опер "Севільскі цырульнік" ды "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета".*

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*









# ЗАСЛАЎЕ І ЗАСЛАЎЦЫ

У кастрычніку спаўняецца 1010 гадоў аднаму з самых старажытных і славутых гарадоў Беларусі — Заслаўлю. Ён быў заснаваны князем Уладзімірам Святаслававічам, які пасля аддаў яго сваёй жонцы Рагнедзе і сыну Ізяславу.

Сучаснае Заслаўе — горад на Свіслачы каля Заслаўскага вадасховішча — месца масавага адпачынку і турызму. У 1967 годзе на заслаўскіх землях створаны гісторыка-культурны запаведнік, які аб'ядноўвае гарадскі Вал (X—XVII стагоддзі), Замэчак, ці магіла Рагнеды (X—XI стагоддзі) і курганныя могільнікі (канец X—пачатак XII ст.). Захавалася Спаса-Праабражэнская царква — помнік архітэктуры XVI—XVII стагоддзяў.

На здымках Аляксея МАЦЮША аповяд пра сучаснае Заслаўе і яго жыхароў.















# АДЗІНЫ Ў ЕЎРОПЕ МУЗЕЙ



**Чвэрць стагоддзя назад каля заходніх сцен Брэсцкай крэпасці археолагі раскапалі унікальнае старажытнае гарадзішча. Яго накрылі своеасаблівым саркафагам і цяпер тут дзейнічае адзіны ў Еўропе археалагічны музей "Бярэсце".**



**Аднак, нягледзячы на кансервацыю, старажытны горад з гадамі ўсё ж падвяргаўся разбурэнню, таму ўсе пабудовы давялося замацаваць скобамі. І цяпер работнікі музея шукаюць новыя спосабы захавання драўніны.**



**Выставы аб жыцці старажытнага Бярэсця, наведванні музея праводзяцца пастаянна. Тут пабывала ўжо каля двух мільёнаў чалавек.**

*На здымках: Старажытны горад пад купалам;*

*Макет старажытнага берасцейскага гарадзішча;*

*Навуковы супрацоўнік Алена Быстрова (на пярэднім плане) і захавальнік музея Наталля Казлова пастаянна сочаць за станам пабудоў гарадзішча.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

Мікола ІВАНОЎ

# СЯРЭДНЯЯ ЛІТВА

Ды інакш і не магло быць. Беларускае грамадства з пагардай адкінула ганебную Рыжскую ўмову паміж бальшавіцкай Расіяй і Польшчай, якая замацоўвала падзел Беларусі паміж яе суседзямі. І падтрымліваць у гэтых умовах урад Сярэдняй Літвы было раўназначна калабараванню з прыгнятальнікамі свайго народа.

Да таго ж, восенню 1921 года ў Вільню нелегальна прыбыў спецыяльны эмісар урада Беларускай Народнай Рэспублікі Алесь Карабач. Ён тайна сустрэўся з Іваноўскім і Тарашкевічам і пазнаёміў іх з рашэннямі Пражскай канферэнцыі беларускіх палітычных арганізацый. Карабач растлумачыў лідэрам віленскага беларускага грамадства новыя задачы нацыянальнага руху ў сувязі з падпісаннем Рыжскай умовы і запатрабаваў ад іх неадкладнага прыпынення ўсялякай падтрымкі ўладаў Сярэдняй Літвы.

Карабач таксама падкрэсліў, што паводле планаў Рады БНР тэрыторыя Віленшчыны павінна пераўтварыцца ў адну з галоўных баз усеагульнага ўзброенага паўстання супраць як савецкай, так і польскай акупацыі. Паводле ягоных слоў, толькі са зброяй у руках беларусы здольны аднавіць сваю незалежнасць. Карабач прыбыў на Віленшчыну для арганізацыі канкрэтнай падрыхтоўчай працы для наладжвання тут партызанскага руху, стварэння запасаў зброі, утварэння канспірацыйнай сеткі і падрыхтоўкі да аб'яднання ўсіх узброеных беларускіх сіл у адно цэлае.

Трэба прызнаць, што заклікі Алеся Карабача не былі пабудаваны на пустым месцы. Ідэя ўсеагульнага ўзброенага паўстання на тэрыторыі акупаванай Беларусі апанавала ў гэты час беларускі незалежніцкі рух. Гэта было звязана з нядаўнім вопытам Слуцкага паўстання, калі ідэя беларускай незалежнасці і стварэння суверэннай беларускай дзяржавы была падтрымана збройнай сілай.

Галоўным ідэолагам планаванага ўсеагульнага ўзброенага паўстання на Беларусі быў старшыня партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў) Тамаш Грыб, які знаходзіўся ў гэты час у Коўні. Партыя беларускіх эсэраў была ў гэты перыяд самай шматлікай і самай уплывовай беларускай партыяй, якая стаяла на грунце незалежнасці. На пачатку 1921 года ў яе складзе налічвалася больш за 25 тысяч членаў, якія дзейнічалі ва ўсходняй і ў заходняй частках акупаванай бацькаўшчыны. Да партыі беларускіх эсэраў належала таксама і большасць членаў Рады народных міністраў БНР, разам са старшынёй урада Вацлавам Ластоўскім.

Узнікае пытанне: ці не была ідэя ўсеагульнага ўзброенага паўстання на Беларусі цалкам утапічнай? Ці мелі малалікія ў параўнанні з вялізнымі арміямі бальшавіцкай Расіі і Польшчы партызанскія аддзелы беларусаў які-небудзь шанц на поспех?

Эсэраўскія беларускія лідэры таго часу, хаця і разлічвалі на прыхільную гістарычную і палітычную кан'юнктуру, былі рэалістамі. Іх разлік палягаў на тым, што мір паміж Савецкай Расіяй і Польшчай вельмі нетрывалы, што немінучая новая савецка-польская вайна, якая павінна нагэтулькі аслабіць абодвух імперыялістычных суседзяў Беларусі, што яны вымушаны будуць згадзіцца на прызнанне новай незалежнай дзяржавы.

Высілкі ўрада Рады БНР у справе аднаўлення незалежнасці бацькаўшчыны былі накіраваны не толькі на падрыхтоўку ўсеагульнага ўзброенага паўстання супраць чырвонай і белай акупацыі, але і на перакананне сусветнай супольнасці аб мэтазгоднасці ўтварэння незалежнай беларускай дзяржавы. Менавіта ў гэты перыяд (канец 1921 года) ажыццяўляліся актыўныя дыпламатычныя дэмаршы ўрада БНР на міжнароднай арэне.

У гэты час Ліга Нацый была вельмі ўстрывожана шматлікімі правааламі сваёй палітыкі на ўсходзе Еўропы. Да нічога не прывяло, напрыклад, пасрэдніцтва Лігі ў справе польска-літоўскага канфлікту. Праваліўся плебісцыт на польска-нямецкім пагранічны ў раёне Памор'я, а вынікі плебісцыту ў Сілезіі выклікалі сапраўдную вайну паміж польскім і нямецкім насельніцтвам рэгіёна. Варагуючыя бакі на Усходзе праігнаравалі таксама і праланову ўстанаўлення межаў на падставе лініі Керзана. Былі і іншыя правалы ўсходняй палітыкі Лігі Нацый.

У сувязі з гэтым кіраўніцтва Лігі прыняло пастанову правесці спецыяльную міжнародную канферэнцыю, прысвечаную ўсім спрэчным пытанням устанаўлення дзяржаўных меж і міждзяржаўных узаемаадносін на ўсходзе Еўропы. Да ўдзелу ў канферэнцыі планавалася запрасіць прадстаўнікоў Савецкай Расіі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, а таксама прадстаўнікоў урада Сярэдняй Літвы. Прыкрай недарэчнасцю, а можа і свядомай палітыкай Лігі Нацый з'яўлялася тое, што на канферэнцыю не планавалася запрашаць ні прадстаўнікоў Беларусі, ні Украіны, двух у гэты час паняволеных народаў, тэрыторыі якіх былі падзелены паміж іх імперыялістычнымі суседзямі.

Дарэчы, дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што Савецкая Расія, якая спрабавала выдаваць сябе за своеасаблівую апякунку слабых і паняволеных народаў, прапанавала Лізе Нацый запрасіць прадстаўнікоў савецкіх псеўданезалежных рэспублік Беларусі і Украіны як паўнапраўных дэлегатаў канферэнцыі. Але Англія і Францыя, пад кантролем якіх знаходзілася ў гэты час Ліга Нацый, не згадзіліся на гэтую праланову.

Менавіта таму ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі распачаў актыўную дзейнасць на міжнароднай арэне з мэтай прыцягнуць увагу сусветнай супольнасці да беларускага пытання і паспрабаваць дасягнуць уключэння беларускага пытання ў парадак дня працы міжнароднай канферэнцыі, якую планавалася наладзіць на пачатку 1922 года ў італьянскім горадзе Генуі.

Вацлаў Ластоўскі накіраваў Лізе Нацыі спецыяльны мемарандум. У ім, у прыватнасці, сцвярджалася, што правядзенне перамоў аб лёсе беларускіх тэрыторый без удзелу прадстаўнікоў беларускага народа з'яўляецца абразай дэмакратыі і не можа прынесці мір і стабілізацыю гэтаму рэгіёну. Ад імя ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі Ластоўскі патрабаваў ад міжнароднай супольнасці не дапусціць паўтору ганебнага Рыжскага пагаднення на міжнародным узроўні, дазволіць удзельнічаць у канферэнцыі дэлегацыі ўрада БНР, якая адна магла прадстаўляць сапраўдныя жыццёвыя інтарэсы беларускага народа.

Восенню 1921 года стала ясна, што перамовы паміж Літвой і Польшчаю пры пасрэдніцтве Лігі Нацый у справе будучыні Сярэдняй Літвы зайшлі ў тупік. Літоўцы не хацелі, ды і не маглі прыняць польскія ўмовы правядзення плебісцыту, які не даваў ім ніякіх шанцаў на поспех. Ды і самі польскія ўлады адкінулі маску дэмакратычнасці і пачалі актыўную кампанію па далучэнні гэтай мінідзяржавы да Польшчы.

Асабліва відавочная гэтая метамарфоза польскай палітыкі была ў дачыненні да беларускага нацыянальнага руху. Генерал Жэлігоўскі і ягоныя прыхільнікі зусім забыліся пра свае абяцанні надаць Сярэдняй Літве характар супольнай польска-беларускай дзяржавы, у якой абедзве нацыі карысталіся б аднолькавымі правамі і дзялілі б паміж сабой уладу. Практычна ўсе важныя праблемы, звязаныя з лёсам Сярэдняй Літвы, вырашаліся не ў Вільні, а ў Варшаве. Пры гэтым польскі

*(Заканчэнне. Пачатак у NN 35—37)*

# ЎЧЫНАК

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

Працэс гэты быў багаты на розныя драматычныя калізіі, што ствараў бок адказчыка. На самым пачатку судовага разбіральніцтва Ю.Азаронак і яго адвакат В.Ярмак раптам выказалі недавер суддзі А.Яшчанка, абвінаваціўшы яе ў неаб'ектыўнасці (фактычна, яшчэ да разгляду справы). Былі высунуты і іншыя "аргументы" падобнага плана: незахаванне сякіх-такіх фармальных дробязей — скажам, нібы па віне суда Ю.Азаронак не змог своечасова азнаёміцца з тэкстам іску, які, да таго ж, не быў аддрукаваны ў належнай колькасці экземпляраў, і да т.п. У віну суддзі адказчыкі паставілі нават пікетаванне будынка суда прыхільнікамі істца (пра тое, што гэтым самым "займаліся" і "балельшчыкі" Ю.Азаронка, у заяве не было сказана ні слова).

Суд, разгледзеўшы заяву адказчыка, не палічыў сябе вінаватым у якім-небудзь парушэнні працэсуальных норм і вырашыў весці працэс у ранейшым сваім складзе.

Былі і іншыя спробы сарваць працэс, а калі не сарваць, дык — вывесці з сябе, дэмаралізаваць "праціўніка". Чым іншым можна вытлумачыць непрыстойны па сваёй сутнасці пасаж адваката В.Ярмака, які прапанаваў запрасіць у суд... урача-псіхіятра з-за быццам бы, на яго думку, неадэкватных паводзін на працэсе істца.

А сутнасць справы станавілася ўсё больш зразумелай і суддзям, і шматлікай публіцы — аўтары фільма "Нянавісць..." выконвалі пэўны палітычны заказ. Пра што іншае магло сведчыць зачытанае адвакатам істца Н.Дударавай распараджэнне начальніка Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта У.Замяталіна аб аказанні пэўнымі арганізацыямі рэспублікі ўсебаковай дапамогі Ю.Азаронку ў стварэнні фільма "Нянавісць...". Распараджэнне, сапраўднасць якога засведчыў і сам адказчык. Але нават калі б такога дакумента і не было, сам загад, што зыходзіў з самага "верху" — неадкладна паўтарыць па тэлебачанні паказ гэтай кінастужкі (нагадаем, што ўсё гэта адбывалася напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет і рэспубліканскага рэферэндуму), арганізаваны ў тэлестудыі пасля паўторнага "бенефісу" Азаронка "круглы стол" з яго ўдзелам і ўдзелам "кампетэнтных" асобаў, якія развілі думкі, выкладзеныя ў фільме, нарэшце, пахвала "Нянавісці...", выказаная самім прэзідэнтам у яго тэлевыступленні, — усё ставіла на свае месцы, паказвала, хто заказваў музыку.

Прызнацца, даведаўшыся, што З.Пазняк вырашыў узбудзіць судовы іск супраць стваральнікаў "Нянавісці...", абараняючы свой гонар і годнасць, я меркаваў, што іск гэты будзе мець дачыненне да ўсяго фільма-фальшыўкі. Ад пачатку да канца. Чаго вартыя, да прыкладу, кадры, знятыя на Курапацкіх могілках, дзе перад камерай выступалі члены так званай "грамадскай камісіі па расследаванні курапацкіх пахаванняў", выступалі з адзінай мэтай — абяліць крывавы сталінскі рэжым, даводзячы, што тысячы пахаваных тут людзей не з'яўляюцца ахвярамі даваенных палітычных рэпрэсій. Фактычна, і гэтымі кадрамі аўтары фільма рабілі спробу кінуць цень на З.Пазняка, дзякуючы вышукам якога ўдалося праліць святло на жудасныя падзеі, што адбываліся ў Курапатах перад вайной. Менавіта яго вышукі былі потым пацверджаны шматлікімі экспертамі і, у рэшце рэшт, створанай па рашэнні ўрада Дзяржаўнай камісіяй, якая паставіла ў гэтай гісторыі ўсе кропкі над "і".

Але ці то па парадзе свайго адваката Н.Дударавай, ці то па нейкай іншай прычыне,ісцец вырашыў патрабаваць "сатысфакцыі" толькі з нагоды найбольш адыёзных па сваім характары кадраў. Менавіта кадраў нямецка-фашысцкай кінахронікі, знятай у часы акупацыі Беларусі гітлераўцамі, на якія метадам несумленнага мантажу было накладзена выступленне істца на адным з мітынгаў у Мінску, і дзе відэарад быў пабудаваны так, што голасам Пазняка быццам бы гаварыў нейкі суб'ект у акружэнні гітлераўскіх афіцэраў, на фоне фашысцкай свастыкі і партрэтаў Гітлера. Усё гэта павінна было стварыць у гледача ўражанне ідэнтычнасці палітычных поглядаў нацыстаў і істца. Палічыў знявагай сваіх гонару і годнасці З.Пазняк і некалькі іншых кадраў з падобнымі "мантажнымі паралелямі", зробленымі з такой жа мэтай.

Усё гэта было ў фільме так груба зляпана, што, здавалася, бок адказчыка, пасля прагляду стужкі ў зале суда, тут жа капітулюе. Марныя спадзяванні! Адвакат Ю.Азаронка прадпрымае такі ход — звяртаецца да суддзяў з патрабаваннем запрасіць на судовы працэс экспертаў, якія змогуць, маўляў, даць кваліфікаваную ацэнку сутнасці спрэчкі. Так праз некалькі дзён у судовай зале з'явіліся эксперты: В.Сураеў — кандыдат гістарычных навук, дацэнт Ваеннай акадэміі Беларусі, А.Бадулін — таксама кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік інстытута "Белінфарм-прагноз" і знаёмы ўжо нам доктар філасофскіх навук, цяпер яшчэ і намеснік дырэктара Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук В.Боўш. Слухаючы іх, я, прызнацца, не адразу ўцяміў, якую мэту ставіў перад сабой адвакат Ю.Азаронка, запрашаючы сабе на дапамогу гэты навуковы дэсант. Больш таго, сякія-такія "адкрыцці" экспертаў выклікалі, мякка кажучы, неўразуменне. Так, В.Сураеў засведчыў, што "невядомы" чалавек "у чорным", які трымае прамову з трыбуны ў акружэнні гітлераўскіх афіцэраў, не хто іншы, як прэзідэнт створанага акупантамі марыянетачнага ўрада "Беларускай цэнтральнай рады" Р.Астроўскі. Сказаўшы гэта, эксперт зрабіў нечаканы кульбіт, пачаўшы ці не пець асану гэтаму мацёраму гітлераўскаму паслугачу, даводзячы, што ён не быў фашыстам

ўрад нават не надта маскаваў гэта. Напрыклад, на пасяджэнні польскага сойму 16 верасня 1921 года спецыяльна разглядалася справа Сярэдняй Літвы, і была прынята нават спецыяльная рэзалюцыя. Яна прадугледжвала, што ў сувязі з правалам польска-літоўскіх перамоў трэба правесці на тэрыторыі Сярэдняй Літвы ўсеагульныя выбары ў мясцовы парламент (сойм), і павінен быў вырашыць далейшы лёс Віленшчыны. Вонкава ўсё выглядала нават дэмакратычна, але ўзнікае пытанне: калі Сярэдняя Літва з'яўлялася суверэннай дзяржавай, дык чаму пастанову аб яе далейшым лёсе прымаюць у Варшаве? Чаму ў справе выбараў спачатку выказаўся польскі парламент, а пазней ужо адпаведныя рашэнні пачаў прымаць нібыта суверэнны ўрад Сярэдняй Літвы?

У гэткіх умовах аб далейшым удзеле ва ўрадзе Сярэдняй Літвы беларускіх прадстаўнікоў не магло быць і мовы. Тады польскія ўлады паспрабавалі замяніць супрацоўніцтва з беларускім незалежніцкім лагерам фікцыяй супрацоўніцтва з паасобнымі і малавядомымі беларускімі дзеячамі паланафільскага накірунку. У сувязі з тым, што палякі не мелі большасці на Віленшчыне, польскія ўлады патрабавалі, каб у выбарах прыняло ўдзел хаця б 50 працэнтаў выбаршчыкаў. Дзеля гэтага трэба было, каб у выбарах прыняла ўдзел хаця б нязначная частка беларускага насельніцтва.

З гэтай мэтай у снежні 1921 года ў Вільні быў наладжаны так званы "Беларускі з'езд". Галоўным яго арганізатарам быў Пятро Аляксюк, дзеяч, паланафільскія погляды якога зусім нядаўна былі асуджаны на Пражскай канферэнцыі беларускіх палітычных арганізацый. Акрамя яго сярод арганізатараў гэтага з'езда былі Валянцін Паўлюкевіч і Вячаслаў Адамовіч, дзеячы, якія амаль ніякага следу пасля сябе ў беларускай гісторыі не пакінулі.

З'езд адбываўся амаль пад дыктоўку польскіх уладаў і быў скліканы адзінае дзеля таго, каб прымусіць беларусаў удзельнічаць у выбарах. Палякі не ашчаджалі сродкаў на яго арганізацыю. Ён быў наладжаны ў адным з найбольш прыгожых будынкаў Вільні — у будынку былога "шляхецкага сходу". Праўда, палякам не ўдалося арганізаваць шырокае беларускае прадстаўніцтва на ім. Удзельнікі яго нікім не абіраліся, а запрашаліся асабіста Алексюком. Назбіралася такім чынам каля 120 удзельнікаў. Большая частка з іх была вельмі слаба звязана з беларускім рухам і не цікавілася беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі.

Рэзалюцыі і адозвы гэтага з'езда былі вытрыманы ў выразным прапольскім духу. Яны заклікалі да падтрымкі польскіх уладаў, у іх сцвярджалася, што толькі Польшча здольная забяспечыць насельніцтву Віленшчыны спакой і парадак, а таксама, нібыта, свабоднае развіццё ў Польшчы беларускай нацыянальнай меншасці.

У самой Польшчы ў гэты перыяд (канец 1921 года) ужо выразна выявіўся антыбеларускі напрамак дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі. І верыць абяцанням арганізатараў з'езда маглі ў той час толькі бясконца наіўныя альбо беспрынцыповыя людзі. Так што спрыяць масаваму ўдзелу беларусаў у выбарах гэты з'езд не здолеў. Да таго ж, усе беларускія газеты незалежніцкага лагера актыўна растлумачвалі беларусам сутнасць гэтага новага кірунку паланафільства.

8 студзеня 1922 года ў чатырох паветах былой Віленскай губерні (Ашмянскім, Свянцянскім, Троцкім і Віленскім), на тэрыторыі якіх прыблізна год назад была абвешчана рэспубліка "Сярэдняя Літва", былі праведзены парламенцкія выбары. Тэарэтычна выбары былі ўсеагульнымі, але ў іх прынялі ўдзел галоўным чынам толькі жыхары Віленшчыны польскай нацыянальнасці. Беларусы, яўрэі і літоўцы, якія разам складалі большасць мясцовага насельніцтва, у выбарах удзелу не прынялі.

Сярод беларусаў толькі невялічкая частка іх, па закліку паланафільскага "Беларускага з'езда", прыйшла на выбарчыя ўчасткі. Большасць жа іх палічыла за лепшае праігнараваць заклікі "нованароджаных" беларускіх "патрыётаў" і застацца дома. Пазіцыя галоўных беларускіх арганізацый (Беларускага Нацыянальнага Камітэта) і вядучых беларускіх палітычных партый) была адназначнай: удзел у выбарах — гэта падтрымка ганебнай Рыжскай умовы паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, якая замацавала падзел Беларусі.

Яўрэйскае насельніцтва амаль цалкам праігнаравала ўдзел у выбарах таму, што далучэнне да Польшчы азначала для іх далучэнне да антысеміцкай і антыяўрэйскай палітыкі тагачаснага польскага ўрада. У адрозненне ад беларусаў, адносіны яўрэяў да рэжыму генерала Жэлігоўскага ад самага пачатку існавання Сярэдняй Літвы былі негатыўнымі. Справа ў тым, што аддзелы літоўска-беларускай дывізіі польскага войска, якімі камандаваў Жэлігоўскі, былі вядомы падчас савецка-польскай вайны як адны з найбольш жорсткіх і гвалтоўных пагромшчыкаў. Менавіта жаўнеры гэтай дывізіі арганізавалі красавіцкі (1919 года) яўрэйскі пагром у Вільні, адразу пасля заняцця горада польскімі войскамі. Гэты пагром працягваўся тры дні і спрычыніўся да шматлікіх ахвяр сярод яўрэйскага насельніцтва. Пагромы таксама суправаджалі адступленне польскага войска летам 1920 года пад націскам арміі Тухачэўскага. Усё гэта і паспрыяла пастанове вядучых яўрэйскіх палітычных арганізацый Віленшчыны не ўдзельнічаць у выбарах. Да таго ж, польскія ўлады "Сярэдняй Літвы" не працягнулі руку яўрэям і не спрабавалі наладзіць з імі міжнацыянальнае супрацоўніцтва, так, як гэта было ў выпадку з беларусамі. Усе спробы яўрэйскіх прадстаўнікоў у гэтым накірунку ігнараваліся. Так, напрыклад, у красавіку 1921 года Рада яўрэйскіх арганізацый Вільні звярнулася да Жэлігоўскага з просьбай дазволіць адчыніць пад Вільняй гаспадарчы асяродак для сіяніцкай моладзі, які б рыхтаваў маладых яўрэяў для ролі будучых перасяленцаў у Палесціну. Ніякага адказу на гэту просьбу Рада не атрымала, але неафіцыйна ёй было заяўлена, што цяпер не час для наладжвання шырокамаштабнай сіяніцкай працы на Віленшчыне. Былі і іншыя выпадкі, калі польская адміністрацыя "Сярэдняй Літвы" адмоўна рэагавала на пастулаты і просьбы яўрэйскага насельніцтва. Усё гэта і прывяло да няўдзелу большай часткі яўрэйскіх выбаршчыкаў у парламенцкіх выбарах у сойм.

Што ж датычыцца літоўскага насельніцтва, дык яно ў гэты час складала ўсяго крыху больш за 5 працэнтаў жыхароў Сярэдняй Літвы, і ягоны ўдзел у выбарах мог мець усяго толькі сімвалічны характар. Аднак громкая заява мясцовых літоўскіх лідэраў аб няўдзеле літоўцаў у выбарах спрычынілася да паўстання супольнага беларуска-яўрэйска-літоўскага фронту адмовы ад спробы легалізацыі далучэння "Сярэдняй Літвы" да Польшчы.

Такім чынам, як бачым, выбары 8 студзеня 1922 года не былі і не роўнымі, і не дэмакратычнымі, як гэта спрабавала прадставіць польская прапаганда. Удзел у іх прынялі амаль выключна мясцовыя палякі. Таму склад новаабранага "парламента Сярэдняй Літвы" можна было б прадказаць загадзя. У ім былі прадстаўлены амаль выключна палякі. Мандаты атрымалі таксама і два беларусы: Пятро Аляксюк і Вячаслаў Адамовіч. Абраны яны былі пераважна польскімі галасамі, і менавіта такую прапольскую пазіцыю занялі яны ў сойме.

Ужо на першым яго пасяджэнні было пастаўлена пытанне аб далучэнні да Польшчы. Але з Варшавы прыйшоў загад крыху пачакаць. Трэба было падрыхтаваць міжнародны грунт для гэтага кроку. І толькі пасля адпаведных дыпламатычных дэмаршаў, калі польскія ўлады пераканаліся, што Ліга Нацый заплюшчыць вочы на гэткія дзеянні, было дазволена прыступіць да апошняга акта гэтай "драмы".

20 лютага 1922 года парламент "Сярэдняй Літвы" прыняў пастанову звярнуцца да Польшчы з просьбай прыняць Віленшчыну ў свой склад. А ўжо на наступны дзень спецыяльны мемарандум з падобнай просьбай быў накіраваны польскаму сойму ў Варшаве. І хаця ўсё было падрыхтавана загадзя, польскі сойм прамарудзіў яшчэ цэлы месяц з прыняццем рашэння: чакалася рэакцыя вялікіх дзяржаў. І толькі калі польскія ўлады пераканаліся, што ніякіх пратэстаў ці акцый з боку Англіі ці Францыі не прадбачыцца, яны пайшлі на падобны крок. 24 сакавіка польскі сойм у Варшаве, нягледзячы на пратэсты Літвы, прыняў рэзалюцыю ў справе пашырэння межаў Рэчы Паспалітай за кошт Віленшчыны.

Ліга Нацый са свайго боку адмовілася ад спроб пасрэдніцтва ў канфлікце паміж Варшавай і Коўняй. У лютым 1923 года Рада Лігі Нацый пастанавіла скасаваць нейтральную дэмаркацыйную лінію паміж Літвой і Сярэдняй Літвой і прызнаць яе ў якасці сталай мяжы паміж Польшчай і Літвой. Прыблізна праз год пытанне граніцы паміж Літвой і Польшчаю абмяркоўвалася на так званай канферэнцыі паслоў вялікіх дзяржаў у Парыжы. На ёй таксама часовая лінія размежавання польскіх і літоўскіх войск была прызнана міжнароднай граніцай.

Здавалася б, на гэтым гісторыю "Сярэдняй Літвы" можна было б і скончыць, але яна мела сваё пасляслоўе.

Урад Літвы, як вядома, палічыў далучэнне "Сярэдняй Літвы" да Польшчы парушэннем міжнароднага права і пачаў актыўную кампанію пратэсту супраць гэтых дзеянняў. У лістападзе 1922 года літоўскі прадстаўнік выступіў на форуме Лігі Нацый і заклікаў гэтую міжнародную арганізацыю ажыццявіць пастанову Версальскай мірнай канферэнцыі 1919 года, якая прадугледжвала далучэнне Віленшчыны і Вільні да Літвы. Аднак, і гэты пратэст, як шмат іншых, застаўся без адказу. Міжнародная супольнасць, стомленая сваімі папярэднімі няўдачамі пасрэдніцтва на ўсходзе Еўропы, палічыла за лепшае ўстрымацца ад далейшых спроб мірнага ўрэгулявання і падтрымаць статус-кво.

Да пратэсту супраць уключэння "Сярэдняй Літвы" ў склад Польшчы далучыўся таксама ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, эміграцыйная сядзіба якога знаходзілася ў гэты час у Коўні. 27 красавіка 1922 года беларуская ўрадавая дэлегацыя ў складзе прэм'ера Вацлава Ластоўскага і міністра замежных спраў Аляксандра Цвікевіча накіравалася на Генуэзскую канферэнцыю. Афіцыйных запрошанаў беларусы не мелі, але і забароны на прыезд у Генуя з боку вялікіх дзяржаў таксама не было. Беларуская дэлегацыя ў Генуі дамагалася галоўным чынам уключэння ў парадак дня канферэнцыі беларускага пытання. Дзеля дасягнення гэтых мэт 2 мая Ластоўскі і Цвікевіч мелі працяглую размову з англельскай дэлегацыяй на чале з прэм'ер-міністрам Лойд Джорджам. А на наступны дзень беларускіх прадстаўнікоў прыняў Луіджы Факто, прэм'ер-міністр Італіі і старшыня Генуэзскай канферэнцыі. Гэтыя неафіцыйныя размовы, аднак, скончыліся безвынікова. Вялікія дзяржавы не пайшлі на прызнанне правоў беларускага народа і на скасаванне Рыжскага мірнага дагавора.

Гісторыя "Сярэдняй Літвы" і падзеі вакол яе з'яўляюцца выразным сведчаннем таго, што на шляху да сваёй сапраўднай незалежнасці беларускі народ мог разлічваць толькі на свае ўласныя сілы. Ніводзін з суседзяў Беларусі не быў шчыра зацікаўлены ў рэальным самавызначэнні беларускага народа. На жаль, у гэтым сэнсе гісторыя мае тэндэнцыю паўтарацца.

---

і ваенным злачынцам, а супрацоўнічаў з немцамі, каб лепей дапамагчы свайму народу(?!). Гэтую выснову калегі пацвердзіў і другі эксперт... Р.Бадулін. І толькі зірнуўшы на адваката Ярмака, які згодна ківаў галавою ў такт слоў экспертаў, я зразумеў, якую пастку рыхтаваў ён істцу: калі Р.Астроўскі, на якога метадам мантажу накладзена выступленне З.Пазняка, не фашыст, дык іск яго аб зняважэ гонару і годнасці за параўнанне з нацыстамі губляе сэнс. Такім чынам, Ю.Азаронак і не думаў у фільме праводзіць паралель паміж З.Пазняком і фашыстамі. Толькі з Р.Астроўскім...

Заўважым, што калі гэта і была (на думку боку адказчыка) пастка, дык трапілі ў яе самі аўтары. Трэба было бачыць разгублены твар адваката А.Ярмака, калі суддзя А.Яшчанка зачытала дасье Р.Астроўскага, што захоўваецца ў органах дзяржаўнай бяспекі: даўні агент абвера, гітлераўскі стаўленік, які, у прыватнасці, аддаваў загады аб расстрэле кожнага, хто ўхіліцца ад прызыву ў створаную акупантамі "Беларускую краёвую абарону", ваеннае фарміраванне, якое ваявала на баку немцаў.

Што тычыць "экспертнага заключэння" В.Боўша, якое ён доўга чытаў па паперцы, то, абмінаючы слізкае пытанне: фашыст Астроўскі ці не, прафесар імкнуўся абгрунтаваць правамоцнасць паралеляў у фільме паміж З.Пазняком і Р.Астроўскім іх быццам бы аднолькавымі палітычнымі поглядамі. І адзін, і другі былі, маўляў, антыкамуністамі. "З.Пазняк, — абураўся Боўш, — дайшоў да таго, што называе камуністаў камунафашыстамі, што супярэчыць усякай логіцы".

А ці так ужо і супярэчыць? На судовым пасяджэнні, дзе выступаў В.Боўш, прысутнічалі і маладыя баркашоўцы, якія прыйшлі "пабалець" за Азаронка. Маладыя, нагала стрыжаныя хлопцы з бычынымі шыямі і накачанымі біцэпсамі, падобныя адзін на аднаго, нібы выйшлі з нейкага аднаго д'ябальскага інкубатара. Да пачатку пасяджэння я выпадкова апынуўся на адной лаве з імі, чуў іх размовы, іх чытанне ўголас баркашоўскай фашысцкай газеткі "Русский порядок" са стылізаванай свастыкай у загалоўку (гітлераўскі "новы парадак" і баркашоўскі — "рускі парадак" — адна блізкасць фармуліровак чаго вартая!).

А што да "блізкасці" Р.Астроўскага і З.Пазняка, таму што абодва яны, маўляў, антыкамуністы, дык, у рэшце рэшт, антыкамуністам быў і А.Сахараў, антыкамуністам з'яўляецца А.Салжаніцын, выступалі супраць камуністычнага ладу тысячы людзей, якія мужна змагаліся з гітлерызмам на франтах Вялікай Айчыннай вайны, а пасля яе, за свае дысідэнцкія погляды, рассаваны па турмах і псіхушках.

Зрэшты, З.Пазняк, выступіўшы ў спрэчках бакоў, яшчэ раз пацвердзіў сваё абурэнне знявагай, нанесенай яго гонару і годнасці за спробу аўтараў фільма "Нянавісць..." правесці паралель паміж ім і фашыстамі, ад рук якіх, дарэчы, у гады Айчыннай вайны загінуў яго бацька і іншыя блізкія і родныя людзі...

Напрыканцы прывяду рашэнне суда па гэтай справе. Вось яно: "Прызнаць не адпавядаючымі сапраўднасці і ганьбуючымі гонар і годнасць Пазняка Зянона Станіслававіча звесткі, што распаўсюджаны ў фільме "Нянавісць: дзеці хлусні", які быў паказаны па тэлебачанні 10 і 12 мая 1995 года, аўтарам якога з'яўляецца Ю.Азаронак... Абавязаць Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампанію Рэспублікі Беларусь у адной з інфармацыйных праграм, што ідуць у эфіры пасля 18.00 гадзін, аб'явіць выніковую частку судовага рашэння не пазней месяца з дня ўступлення рашэння ў законную сілу. Абавязаць Азаронка Юрыя Уладзіміравіча выступіць па тэлебачанні з паведамленнем аб тым, што ў створаным ім фільме "Нянавісць: дзеці хлусні" з прымяненнем прыёму паралельнага мантажу вобраза Пазняка Зянона Станіслававіча не адпавядае сапраўднасці".

P.S. Маленькае аўтарскае пасляслоўе. Калі мець на ўвазе сённяшнія нашыя дэмакратычныя "свабоды", рашэнне суддзі Алы Уладзіміраўны Яшчанкі — **Учынак.** Учынак прынцыповага чалавека, юрыста, які, не зважаючы на палітычную кан'юнктуру, ставіць вышэй за ўсё сумленнае выкананне свайго прафесійнага абавязку. Гэта ўражвае.

**Міхась ЗАМСКІ**

---

# "МАГУТНЫ БОЖА" ЗРАЗУМЕЛЫ ЎСІМ...

Пінскі хор палескай песні, якім кіруе Людміла Семянюк, калектыў малавядомы нават у нас, на Палессі. Але нягледзячы на гэта ён пачынае наладжваць сяброўскія сувязі з замежнымі народнымі ансамблямі. Прыехаўшы сёлета з фестывалю "Магутны Божа", адзначаны лаўрамі, хор пачаў збірацца ў Польшчу з канцэртамі духоўнай музыкі. Запрасіў яго туды народны калектыў з Мышкува, што ў Чэнстахоўскім ваяводстве.

Першы канцэрт праходзіў у невялікім местачковым касцёле ў Каміяніцы Польскай. Гэта было найбольш удалае выступленне пінскага хору. Тое, што яно адбывалася ў культавым будынку, паўплывала на ўнутраны стан артыстаў. Натхняла таксама захопленасць слухачоў, якія прыйшлі паслухаць праваслаўныя і каталіцкія спевы. Наступным днём ладзілася сумеснае выступленне запрошаных і мясцовых калектываў. Канцэрт адбываўся пад адкрытым небам, што адмоўна адбілася на якасці гучання. Але, нягледзячы на гэта, публіка добра прымала гасцей з Беларусі, таксама як і на апошнім канцэрце ў касцёле св.Войцаха, што ў Чэнстахове. Многія з прысутных, здавалася, гатовыя былі спяваць разам з хорам. Але найбольш здзівіла і ўзрадавала тое, як польская публіка ўспрымала твор М.Равенскага "Магутны Божа". На ўсіх трох канцэртах пасля яго выканання людзі ўзнімаліся і апладзіравалі стоячы. Напэўна, не кожны разумеў цалкам змест тэксту, але сама мелодыя вымагала адпаведнай рэакцыі, і людзі адчувалі гэта. Падумалася: ці не зрабілі мы памылку, не абраўшы гэты выдатны твор сваім дзяржаўным гімнам?

Увогуле Пінскі хор палескай песні годна прадставіў Беларусь за мяжой. Акрамя таго, што набыў прыхільнікаў сярод польскіх аматараў духоўнай і народнай музыкі, калектыў паспрабаваў наладзіць кантакт з іспанскімі артыстамі, якія таксама былі запрошаны польскім бокам. Будзем спадзявацца, што неўзабаве Пінск наведае народны ансамбль з Іспаніі, а палешукі завітаюць да жыхароў далёкага горада Саламанкі.

**Яўген САЛЯЙЧУК**

*г.Пінск*

---

# БЫВАЙ, МУЗЫКАНТ!

Ён пакінуў жыццё зямное раптоўна і для многіх незаўважна, у адзін з так званых неспрыяльных дзён пры канцы лета. Вяртаючыся з адпачынкаў, музыканты даведваліся, што іхняга калегу Леаніда Смялкоўскага, заслужанага артыста Беларусі, праводзілі ў апошні шлях незаслужана сціпла... Зрэшты, гэты горкі факт застанецца ў памяці толькі тых, хто аддаў Музыканту апошні зямны паклон. Наогул жа імя Леаніда Аляксандравіча Смялкоўскага застанецца ў нашай гістарычнай памяці як імя апантанай творчасцю асобы: кампазітара, аранжыроўшчыка, дамрыста-віртуоза, кіраўніка Секстэта домраў, а затым і Камернаінструментальнага ансамбля Беларускага радыё, чулага дарадцы і настаўніка.

Ужо цяпер адчулася страта яго музыканцкага таленту ды эрудыцыі ў нашым мастацкім жыцці: менавіта ён узяўся за карпатлівую і няўдзячную працу па расшыфроўцы і рэдагаванні некаторых старых нотных рукапісаў для Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла". Праца раптоўна спынілася.

І ўсё ж, і ўсё ж... У фондах радыё назапашана нямала музычных запісаў, якія дзесяткі гадоў гучаць у эфіры (і будуць гучаць!), нагадваючы слухачам гэтае імя: Леанід Смялкоўскі.

**С.Б.**

***Намаганнямі Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, рады таварыства "Беларусь — Латвія", Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2 па 5 кастрычніка праходзяць Райнісаўскія дні, прымеркаваныя да 130-годдзя з дня нараджэння вялікага латышскага паэта. 4 кастрычніка а 17-й гадзіне ў памяшканні Беларускага таварыства дружбы адкрыецца выстава "Ян Райніс і Беларусь", падрыхтаваная супрацоўнікамі Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва і Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. А 18-й гадзіне там жа пачнецца літаратурна-музычная вечарына "Ветрык, вей!", у якой прымуць удзел перакладчыкі твораў народнага паэта Латвіі, кампазітары, спевакі, школьнікі (і з вуліцы Я.Райніса ў Мінску — таксама).***

***5 кастрычніка святкаванне прадоўжыцца ў Віцебску дзякуючы клопатам Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, латвійскага консула ў Віцебску сп.Армандра Крузэ, работнікаў культуры горада. У тэатры, на адкрыццё якога прыязджаў у 1926 годзе Я.Райніс, адбудзецца вечарына, а перад гэтым госці наведаюць магілу маці Райніса, сустрэнуцца з латышскаю суполкаю ў Віцебску.***

***Ва ўсіх мерапрыемствах Райнісаўскіх дзён прымуць удзел госці з Латвіі — Айя Лацэ і Нора Ікстэнэ.***

***Прапаную чытачам "ЛіМа" нізку матэрыялаў пра Я.Райніса.***

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**старшыня рады таварыства "Беларусь—Латвія"**

# ПАЭТ БАРАЦЬБЫ, СОНЦА І ЛЮБОВІ



*Я.Райніс у сваёй бібліятэцы ў Тарнякалнсе. 1924 г.*

Так назвалі Райніса даследчыкі яго творчай спадчыны. Мы, беларусы, у асобе Паэта займелі свайго шчырага сябра, даследчыка і прапагандыста нашай нацыянальнай культуры. А латвійскія беларусы, грамадзяне незалежнай дзяржавы, мелі свайго надзейнага абаронцу. Райніс стаў іх прадстаўніком у сейме, дамогся для беларускай меншасці культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Вось толькі невялікая вытрымка з прамовы Яніса Райніса ў сейме ў 1922 годзе: "Наколькі з размовы можна было зразумець, пытанне паставілі так: хто ж у сапраўднасці выдумаў гэтых беларусаў? Гэтых беларусаў, як быццам, выдумаў я. Выдумаць я іх мог, таму што само існаванне такога народа — гэта факт. Але што я іх абараняю, дык я не хачу і не магу гэтага адмаўляць... З беларускім пытаннем у нас справа выглядае так, што беларусы ў Латвіі без абароны... Я ж абараняю ўсіх тых, у каго другога абаронцы няма".

Яніс Райніс заступаўся за абяздоленых беларусаў не толькі ў сваёй дзяржаве. Ішоў 1923 год. Жэнева. Ліга нацый. Чытаю ў часопісе "Крывіч" (1924 г. N 2(8), стар.75) пра тое, што ў часе пленарнага пасяджэння было зроблена супольнае выступленне паняволеных Польшчай нацый у форме агульнага пратэсту. Супраць акупацыі беларускіх, украінскіх і літоўскіх зямель палякамі пратэст ад беларусаў падпісалі В.Ластоўскі, ад украінцаў — М.Лазінскі, ад літвіноў — Я.Райніс.

Яніс Райніс валодаў такімі мовамі: нямецкай, літоўскай, расійскай, беларускай, італьянскай, французскай, грэцкай і латынню... У сям'і, да таго ж, маглі гаварыць пры нагодзе па-яўрэйску і па-латгальску... Райніса ўражвалі старажытныя латгальскія выслоўі, найменні. Нездарма прозвішча аднаго латгальскага земляроба на межавым слупіку, якім пазначаліся граніцы шарварку, ён узяў сваім псеўданімам (сапраўднае прозвішча — Пліекшан).

Маленькаму Жаныню (гадаваўся пад прыглядам гуда Нядзвецкага) з дзіцячых гадоў беларуская песня, мова нашая была на слыху, бо яго родная Тадэнава на Ілукстаншчыне (паўднёва-заходняя Латгалія) — была балцка-крывіцкім сумежжам. Там суседзіліся хутары літоўскія, беларускія, латышскія. Пра гэта Райніс напісаў у сваім эпасе маленства "Сонечныя леты". Навуковы супрацоўнік Інстытута фальклору Латвійскай акадэміі навук П.Біркерт зазначаў: "Успрымаючы і запісваючы латышскія народныя песні ад сваёй мамы, Райніс у той жа час збіраў таксама беларускія, літоўскія, польскія, рускія народныя песні, запісваючы іх са слоў мясцовых людзей".

Гэтыя фальклорныя доследы былі настолькі грунтоўнымі, што Райніс стварыў навуковую працу "Вясельныя абрады Вышкаўскай воласці". Вось маленькая рэцэнзія на яе Т.Гінтэрэ: "Райніс напісаў грунтоўны артыкул аб вясельных абрадах латышоў, якая была надрукавана ў кнізе Э.Вольтэра пра этнаграфію латышоў Віцебскай губерні. Артыкул сведчыў аб глыбокім веданні паэтам звычаяў і абрадаў як латышскага, так і рускага і беларускага народаў" (Известия АН Латвии. 1957 г. N 5 (118). Застаецца шкадаваць, што вялікі паэт не паспеў рэалізаваць сваю задуму — напісаць фальклорную драму "Беларусы".

Жыццёвая пазіцыя Райніса як міралюбца, ахвярніка, апекуна-заступніка набывае сёння асаблівую прывабнасць, заслугоўвае перайманне. Яго запаветная спадчына вартая вывучэння — на карысць новага разумення ўзаемадзейнасці нацый, культур, дзяржаўных палітычных структур. Да прыкладу, толькі ў Музеі гісторыі літаратуры і мастацтва імя Я.Райніса, які месціцца ў Рыжскім замку (вул.Пілс, 1) — на захаванні 40 000 адзінак. Гэта рукапісы, дакументы, карэспандэнцыя, кнігі. Вялікая частка з іх звязана з Беларуссю непасрэдна.

У 1926 годзе Яніс Райніс наведаў Мінск, Віцебск, займеў сярод літаратараў, дзеячаў мастацтва многа новых сяброў, ад якіх атрымаў кнігі, здымкі, іншыя падарункі, якія сёння лічацца рэліквіямі. Вось толькі адзін купалаўскі надпіс на райнісаўскай кнізе: "Вельмі шчыраму сябру, слаўнаму песняру Яну Райнісу. Янка Купала. Менск, 19.XI.26 г." Мірдза Абала зрабіла вопіс беларускай бібліятэкі Я.Райніса, каталог публікацый пра народнага паэта, вывучыла яго творчыя ўзаемадачыненні з беларускай культурай. Але работы хопіць і новым даследчыкам. Бо дзякуючы Райнісу латвійскія беларусы змаглі разгарнуць вялікую культурнаасветную дзейнасць. Абуджаныя карэнныя жыхары Латвіі выявілі не абы-якую творчую актыўнасць. Праз школы, гімназіі таварыства "Бацькаўшчына" выхоўвала асветнікаў-будзіцеляў, шукала таленты — і яны паказалі сябе. Вось толькі некаторыя імёны, якія пакінулі асабліва значны след. Рэжысёр Я.Камаржынскі, паэты Пятро Сакол (Масальскі), Лясная Кветка (Валянціна Казлоўская), Эдвард Вайвадзіш, Мікола Талерка, Вера Гаротная (Вайцюлевіч), празаік Віктар Вальтар, мастакі Міхась Калінін, Пятро Мірановіч, Аркадзь Салаўёў... Гадаванцы І. Краскоўскага, С. Сахарава, М. Мядзёлкі, К. Езавітава (ім хоць і нядоўга дапамагалі М. Гарэцкі, І. Дварчанін, У. Жылка...) упоўніцу паслужылі Беларускаму Адраджэнню. Іх культурны "ўраджай" — у архівах, музеях, розных запасніках Рыгі, Прагі, Браціславы, Нью-Йорка, Чыкага. Без вывучэння іх творчай спадчыны з белымі плямамі застанецца мацярык беларускае культуры. І як тут яшчэ раз не падзякаваць нястомнаму Янісу Райнісу! Промні яго сонца, яго любові і сённ жывяць дзейнасць беларускіх суполак у Рызе і Даўгаўпілсе. Замест "Голасу Беларуса" сёння ў Рызе выходзіць газета "Прамень", прадаўжальнікамі "Бацькаўшчыны" сталі "Світанак", "Уздым", таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны "Прамень".

Для ўстанаўлення новых асноў добрасуседства, узаемапавагі і паразумення, лучнасці нацыянальных культур Яніс Райніс і надалей будзе нашым настаўнікам, дарадцам, натхніцелем. Магчыма, будзе і так: ідучы з праспекта Свабоды ў Рызе праз вуліцу Я.Райніса ў Мінску мы спынімся ля помніка народнаму паэту — у Віцебску, адкуль ён апошні раз, развітаўшыся з магілай маці, з роднымі латгальскімі даляглядамі, з юрмальскімі зламанымі соснамі, пайшоў пад мармур свайго прытулку, лёг "у падмурак... каханай айчыны".



*Канферэнцыя беларускіх настаўнікаў г.Рыгі. 1933 г. У першым радзе ў цэнтры Сяргей Сахараў і Канстанцін Езавітаў; у другім радзе крайні справа — Міхаіл Калінін; у трэцім радзе крайні справа Пётра Мірановіч, побач — Язэп Камаржынскі.*

## Яніс РАЙНІС

### УЛЮБЁНЕЦ У АЙЧЫНУ

**Хто любіць айчыну,**
**той мае свой кут —**
**І дах над сабой**
**і апошні прытулак;**
**Такому тут хлеб і любоў —**
**паратунак,**
**Такому разумныя існасці —**
**тут.**

**Ды не! Ёсць яшчэ**
**закаваныя сэрцы, —**
**З іх молат не выкрасе**
**іскры пакут,**
**Айчыне не будуць**
**яны аднаверцы.**

**Іх лёс бесталанны вось**
**з гэтай прычыны**
**Ў падмурак не ляжа**
**каханай айчыны.**

**Пераклад Сяргея ПАНІЗНІКА**

### СОНЕЧНЫЯ ЛЕТЫ

Эпас маленства
*(урывак)*

**Па паданні продкі маці —**
**З вольнае Літвы баяры,**
**Што прыйшлі ў часіны мору,**
**Як збязлюдзеў**
**край зэмгальскі.**
**Кроў латышская з літоўскай**
**Ува мне цякуць і робяць**
**Дух мой духам паяднання,**
**Абавязкамі багацяць.**

**Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтарыя — 268-640



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 7235.
Нумар падпісаны 28.09.1995 г.
Заказ 4046

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12